«Преподавательские кадры учреждений высшего образования, как и другие группы и индивидуумы, должны пользоваться гражданскими, политическими, социальными и культурными правами, признанными на международном уровне в отношении всех граждан. Поэтому все преподавательские кадры учреждений высшего образования должны пользоваться правом на свободу мысли, совести, религии, слова, собраний и объединения, а также правом на свободу и безопасность личности и свободу передвижения. Как граждане, они не должны сталкиваться с какими-нибудь препятствиями или ограничениями в осуществлении своих гражданских прав, включая право содействия социальным изменениям путем свободного выражения своего мнения о государственной политике и политике, затрагивающей высшее образование. Они не должны подвергаться никаким наказаниям в результате только лишь осуществления таких прав. Преподавательские кадры учреждений высшего образования не должны подвергаться произвольному аресту или задержанию, пыткам или жестокому, бесчеловечному или унижающему человеческое достоинство обращению. В случае грубого нарушения прав преподавательских кадров учреждений высшего образования, они должны иметь право на подачу апелляции в соответствующие национальные, региональные или международные органы, такие как учреждения системы Организации Объединенных Наций, а организации, представляющие преподавательские кадры учреждений высшего образования, должны в таких случаях оказывать им всестороннюю помощь».

Очевидно, что решение проблем национальной регламентации академической свободы в системе высшего образования производно от разрешения политического кризиса и формирования новой образовательной политики, основанной на нормах международного и европейского права, а также лучших эффективных образовательных практиках.

**Библиография:**

*Международные нормативные акты ЮНЕСКО : конвенции, соглашения, протоколы, рекомендации, декларации / Комиссия Российской Федерации по делам ЮНЕСКО* ; сост. И. Д. Никулин. М., Логос, 1993, с. 199–203.

*О новой редакции модельного Образовательного кодекса (Общая часть) для государств-участников СНГ: постановление Межпарламентской Ассамблеи государств-участников Содружества*

*Независимых Государств : № 39-6 // КонсультантПлюс. Беларусь* / ООО «ЮрСпектр», Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. Минск, 2021.

*Кодекс Республики Беларусь об образовании 13 янв. 2011 г., № 243-З : принят Палатой представителей 2 дек. 2010 г. : одобрен Советом Респ. 22 дек. 2010 г. : в ред. Закона Респ. Беларусь от 18.07.2016 г.* [в:] КонсультантПлюс. Беларусь / ООО «ЮрСпектр», Нац. центр правовой информ. Респ. Беларусь. – Минск, 2021.

*Конституция Республики Беларусь 1994 г. : с изм. и доп., принятыми на респ. референдумах 24 нояб. 1996 г. и 17 окт. 2004 г.* Минск, Амалфея, 2005.

Интернет-источники:

https://nic.gov.ru/ru/docs/foreign/bolonga/Academic-Freedom-Statement
http://www.afaf.org. uk/
https://www.aaup.org/report/1940-statement-principles-academic-freedom-and-tenure
https://russian.eurasianet.org
https://www.hse.ru/mirror/pubs/share/382849661.pdf (доступ 03.12.2021)

*Вольга Башлакова*[1]
*Генадзь Башлакоў*[2]

## Сучасны стан і перспектывы рэалізацыі аўтарскага права ў Беларусі: эканамічны аспект

*Volha Bashlakova*
*Henadzi Bashlakov*

## The current state and prospects of copyright implementation in Belarus: economic aspect

**Ключавыя словы:** аўтарскае права, сумежныя правы, аб'екты інтэлектуальнай уласнасці, інавацыі, патэнты, ліцэнзіі, дзяржаўнае рэгуляванне, ценявая эканоміка, балансавы кошт аб'ектаў.

**Keywords:** copyright, related rights, intellectual property objects, innovations, patents, licenses, government regulation, shadow economy, book value of objects.

[1] Беларуская Акадэмія, кандыдат эканамічных навук, дацэнт, Беласток, Польшча
[2] Беларуская Акадэмія, кандыдат эканамічных навук, дацэнт, Беласток, Польшча

**Рэзюме:** На аснове аналізу стану і дынамікі дзейнасці ў Беларусі ў галіне рэгістрацыі аб'ектаў аўтарскага права і сумежных правоў выяўлены прычыны яе стагнацыі, напрамую звязаныя з інавацыямі і эфектыўнасцю даследаванняў і распрацовак. Аўтары даследавалі такія фактары дзейнасці ў сферы аўтарскага права і сумежных правоў, як сістэма дзяржаўнага рэгулявання, якая вызначае попыт на інавацыі, ценявы сектар эканомікі ў сферы абароту аўтарскіх правоў, а таксама падыходы да вызначэння кошту аб'ектаў інтэлектуальнай уласнасці, якія ўлічваюцца ў складзе уласнасці прадпрыемстваў.

**Abstract:** Based on the analysis of the state and dynamics of activities in Belarus in the field of registration of objects of copyright and related rights, the reasons for the stagnation of this field of activity, directly related to innovation and the effectiveness of research and development, are identified. The authors investigated such factors of activity in the field of copyright and related rights as the system of state regulation that determines the demand for innovations, the shadow sector of the economy in the field of copyright circulation, as well as approaches to determining the value of intellectual property objects accounted for as part of an enterprise's property.

**Уводзіны.** Эканамічныя працэсы, звязаныя са стварэннем аб'ектаў аўтарскіх і сумежных правоў, іх рэгістрацыяй і манетызацыяй, з'яўляюцца найважнейшым аспектам сучаснай эканомікі, заснаванай на ведах і іх інтэлектуальным прадукце[1][2]. Можна вылучыць асноўныя тэндэнцыі ўзрастання ролі ідэнтыфікацыі і рэалізацыі аўтарскага права ў сучаснай эканоміцы:

– у развітых краінах вялікая частка эканамічнага росту дасягаецца за кошт новых ведаў: новых прадуктаў, новых тэхналогій, інавацыйных ідэй выкарыстання рэсурсаў. У тых краінах, дзе пераважае традыцыйны прамысловы рост, заснаваны на эксплуатацыі таннай рабочай сілы, прыродных рэсурсаў і інфраструктуры (Кітай, В'етнам, Тайланд, Філіпіны) дэкларуецца пераход да эканамічнага росту, заснаванага на ведах. Так, стварэнне эканомікі ведаў прызнана дзяржаўнай стратэгіяй у Кітаі;

– пастаянна расце доля работнікаў, чыя праца звязана са стварэннем інтэлектуальнага прадукту. Гэты рост пачаўся яшчэ на мяжы 80-90-х гг. XX стагоддзя і працягваецца па цяперашні час. У ЗША, Японіі, Паўднёвай Карэі, Заходняй Еўропе доля такіх работнікаў перавысіла 50 %;

---

[1] *Об авторском праве* . Национальный центр интеллектуальной собственности. – URL: https://ncip.by/avtorskie – i – smezhnye – prava/ob – avtorskom – prave/. – Дата доступу: 25.11.2021

[2] *О смежных правах* .Национальный центр интеллектуальной собственности. – URL: https://ncip.by/avtorskie – i – smezhnye – prava/o – smezhnyh – pravah/. – Дата доступу: 25.11.2021

– бесперапынна растуць аб'ёмы фінансавання навукова-даследчых і доследна-канструктарскіх работ (далей – НДДКП) за кошт дзяржаўных, карпаратыўных і прыватных крыніц. У найбольш развітых краінах каля 15 % бюджэтных выдаткаў накіроўваюцца на фінансаванне НДДКП, прычым у ЗША, Японіі і Паўднёвай Карэі больш за палову такіх выдаткаў фінансуецца за кошт недзяржаўных крыніц[1];

– узрастае роля інтэлектуальнага капіталу ў нацыянальным багацці краіны і маёмасці кампаній. Паралельна з развіццём эканомікі ведаў пачаў павялічвацца разрыў паміж рынкавым коштам кампаніі і коштам замяшчэння яе маёмасці, што тлумачыцца наяўнасцю і роляй інтэлектуальнага капіталу, асновай якога прама ці ўскосна з’яўляюцца аб'екты аўтарскіх і сумежных правоў. Чым у большай ступені поспех кампаніі заснаваны на развіцці інтэлектуальнага капіталу, тым больш адносная велічыня інтэлектуальнага капіталу;

– выгада развіцця інтэлектуальнага капіталу асабліва бачная на прыкладзе краін, якія не валодаюць вялікімі запасамі прыродных рэсурсаў. Эканоміка ведаў забяспечвае максімальную дабаўленую вартасць пры тым жа валавым аб'ёме выпрабленай прадукцыі. Так, напрыклад, у Беларусі Мазырскі нафтаперапрацоўчы завод і Парк высокіх тэхналогій маюць падобны аб'ём вытворчасці (прыкладна па 7,7 млрд. руб. у год у сярэднім за 2019-2020 гады), але калі дададзены кошт Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода пры гэтым быў меншы за 1 млрд. руб., то дабаўленая вартасць (а значыць і ўклад у ВУП краіны) Парку высокіх тэхналогій склала практычна ўсю выручку, гэта значыць, у 8 разоў больш.

Пры гэтым аўтарскае права і сумежныя з ім правы з'яўляюцца механізмам абароны магчымасці атрымаць прыбытак ад укладання капіталу ў інтэлектуальную і творчую дзейнасць. Найбольш моцным стымулам для любой дзейнасці ў эканоміцы з'яўляецца адэкватнае матэрыяльнае ўзнагароджанне, таму без эфектыўнай працы механізму абароны аўтарскага права не будзе стымулаў для сучаснага эканамічнага развіцця, заснаванага на чалавечым капітале. Прымаючы пад увагу адсутнасць значных запасаў прыродных рэсурсаў, нізкі ўзровень фінансавых назапашванняў і адсутнасць рэзерва таннай рабочай сілы, чалавечы капітал з'яўляецца адзіным патэнцыйным драйверам эканамічнага развіцця Беларусі ў сучасным свеце.

[1] Е.Б. Леанович. *Права интеллектуальной собственности на мировом рынке: перспективы для Республики Беларусь*. Минск: БГУ, 2018, 183 с.

**Асноўная частка.** Актыўнасць інавацыйных працэсаў у эканоміцы Беларусі, звязаных з аўтарскім правам, застаецца на надзвычай нізкім для еўрапейскай краіны ўзроўні і працягвае зніжацца (табліца 1).

**Табліца 1. Інавацыйная актыўнасць, звязаная з рэалізацыяй аўтарскіх і сумежных правоў у Беларусі ў 2015-2020 гг.**[1]

| Паказатель | Гады | | | | | | Тэмп змянення 2020 г. да 2015 г., % |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 2015 | 2016 | 2017 | 2018 | 2019 | 2020 | |
| Заяўка на вынаходства | 691 | 521 | 524 | 547 | 393 | 394 | 57,0 |
| Рэгістрацыя вынаходстваў | 902 | 941 | 850 | 625 | 461 | 447 | 49,6 |
| Заяўкі на карысныя мадэлі | 455 | 416 | 453 | 372 | 334 | 308 | 67,7 |
| Рэгістрацыя карысных мадэляў | 379 | 341 | 306 | 293 | 308 | 296 | 78,1 |
| Заяўкі на прамысловыя ўзоры | 211 | 262 | 202 | 225 | 325 | 190 | 90,0 |
| Рэгістрацыя прамысловых узораў | 230 | 174 | 217 | 180 | 299 | 222 | 96,5 |
| Заяўкі на таварныя знакі ад нацыянальных заяўнікаў | 1723 | 1765 | 1955 | 1877 | 2024 | 2007 | 116,5 |
| Рэгістрацыя таварных знакаў ад нацыянальных заяўнікаў | 2504 | 1229 | 1570 | 1157 | 1488 | 1814 | 72,4 |
| Дамовы на перадачу правоў (ліцэнзіі, продаж, франчайзінг, | 633 | 751 | 771 | 688 | 778 | 588 | 92,9 |

[1] *Годовой отчет Национального центра интеллектуальной собственности Республики Беларусь за 2020 год ,* https://www.ncip.by/izdaniya-i-publikatsii/godovoy-otchet/
Дата доступа 9.05.2022

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| заклад) | | | | | | | |
| Збор аўтарскага ўзнагароджання, млн. руб. | 3,794 | 4,427 | 5,223 | 5,855 | 6,171 | 5,075 | 133,8 |

Так, у 2020 годзе ў параўнанні з 2015 годам прыкладна ў 2 разы знізілася колькасць заявак на вынаходствы, прычым гэта не тлумачыцца спадам, звязаным з палітычнымі падзеямі 2020 года і пандэміяй каронавірусу, бо дэградацыя паказчыка працягвалася ўвесь разгляданы перыяд. На 1/3 ўпала колькасць заявак на карысныя мадэлі, па гэтым паказчыку таксама назіраецца ўстойлівая дэградацыя. Колькасць заявак на прамысловыя ўзоры (самы просты від інавацыйных прапаноў) была стабільная ўвесь разгляданы перыяд, а ў 2020 годзе некалькі знізілася і склала 90 % ад узроўню 2015 года. Аб'ём заявак на таварныя знакі, якія часцей за ўсё ўяўляюць сабой лагатып з фірмовым найменнем, некалькі вырас ў параўнанні з 2015 годам (на 16 %), аднак, паколькі працэнт нерэгістраваных знакаў тут досыць вялікі з-за вызначальнага падабенства з ужо вядомымі і абароненымі знакамі, то рэгістрацыя таварных знакаў знізілася ў 2020 годзе амаль на 30 % у параўнанні з 2015 годам.

Што датычыцца манетызацыі аб'ектаў аўтарскіх і сумежных правоў, то дагавораў на камерцыйнае выкарыстанне (варта нагадаць, што тут улічваюцца дагаворы не толькі айчынных, але і замежных праваўладальнікаў, абарона якіх перададзена на тэрыторыі Беларусі нацыянальным органам, акрамя таго, адзін і той жа патэнт можа быць манетызаваны некалькі разоў праз дагаворы франчайзінгу і вылучнае ліцэнзіі) ў 2020 годзе было заключана на 7,1 % менш, чым у 2015 годзе. Па дадзеным паказчыку назіраецца рэзкі спад па выніках менавіта 2020 года, калі ў сувязі з пандэміяй і палітычнымі падзеямі спад інвестыцыйнай актыўнасці рэзка панізіў попыт на айчынныя аб'екты аўтарскіх правоў, як у Беларусі, так і за мяжой. Паступленні ад аўтарскага ўзнагароджання павольна раслі ў 2015-2019 гг., а ў 2020 годзе таксама рэзка знізіліся. У выніку ў намінальным вымярэнні яны апынуліся вышэй за ўзровень 2015 года на 33,8 %, аднак, прымаючы пад увагу нават афіцыйныя відавочна заніжаныя тэмпы інфляцыі, якія за гэты перыяд склалі 141,0 %, адбылося фактычнае зніжэнне рэальных сабраных аўтарскіх узнагароджанняў на 5,1 %. З сабраных узнагароджанняў найбольшую ўдзельную вагу займалі дэманстрацыя перадач і фільмаў па тэлебачанні (IP-тэлебачанне, кабельнае і

эфірнае тэлебачанне, каля 60 %), а таксама канцэртнае і тэатральнае публічнае выкананне твораў (каля 25 %)[1].

Калі казаць пра прычыны гэтакай нізкай актыўнасці ў галіне аўтарскіх і сумежных з імі правоў, то ў першую чаргу трэба назваць нізкую інвестыцыйную і інавацыйную актыўнасць у краіне, якая генеруе попыт (і ў нейкай меры прапанову) на аб'екты гэтых правоў. Найбольш значнымі прычынамі такога стану інавацыйнай сферы з'яўляюцца:

1. Меры дзяржаўнага рэгулявання, якія стымулююць інавацыйнае прадпрымальніцтва. Ідэальным стымулам для вынаходніка ці іншага аўтара аб'екта такога права з'яўляецца магчымасць самастойна альбо з фінансавым удзелам інвестараў манетызаваць вынікі яго вынаходкі. У навуковай літаратуры досыць падрабязна разгледжаны прычыны дэградацыі інавацыйнага сектара ў Беларусі, адзначым тут асноўныя з іх:

– завышаная працэнтная стаўка па інвестыцыйных крэдытах, якая абумоўлена ільготным крэдытаваннем, у большасці сваёй, вельмі неэфектыўных дзяржаўных праграм і буйных стратных прадпрыемстваў, што робіць працэнтныя стаўкі па крэдытах для новага бізнесу вельмі высокімі;

– ускладненая сістэма дазвольных працэдур, якая прадугледжвае атрыманне ўзгадненняў, ліцэнзій, сертыфікатаў і пасведчанняў гігіенічнай рэгістрацыі на шэраг тавараў і вытворчых працэсаў, якія адносяцца да сферы дзейнасці малога і сярэдняга інавацыйнага бізнесу і якія не з'яўляюцца аб'ектамі такога рэгулявання, як у развітых краінах;

– складаная і ўнутрана супярэчлівая сістэма падатковага адміністравання, якая ўключае ў сябе патрабаванні да дакументальнага афармлення і разліку выдаткаў і прымаемых да заліку сумаў па падатку на дабаўленую вартасць, а таксама шэраг абавязковых плацяжоў, якія фармальна не з'яўляюцца падаткамі, але фактычна павышаюць падатковую нагрузку на інавацыйны бізнэс (збор на ўтрыманне помнікаў архітэктуры, збор на ўтылізацыю адходаў і т. п.);

– адсутнасць вольнага доступу да вытворчай інфраструктуры, уключаючы зямельныя ўчасткі, вытворчую нерухомасць, электраэнергію, камунальныя паслугі і г.д., што робіць вельмі доўгім і складаным працэс інвеставання ў вытворчасць новых тавараў і паслуг;

[1] *Годовой отчет Национального центра интеллектуальной собственности Республики Беларусь за 2020 год*

– ускладненая і забюракратызаваная працэдура імпарту, арганізацыі працоўных адносін, атрымання доступу да дзяржаўных паслуг.

Следствам усяго гэтага з'яўляецца нізкая інавацыйная і інвестыцыйная актыўнасць і вельмі нізкі попыт на вынаходствы і іншыя аб'екты аўтарскага і сумежнага права;

2. Вялікія маштабы нелегальнага выкарыстання і прайгравання аб'ектаў аўтарскага права, уключаючы прамысловае пірацтва, выкарыстанне незаконных копій праграмнага забеспячэння, прайграванне аўдыёвізуальных твораў і г. д. Дастаткова сказаць, што больш за 99 % аперацыйных сістэм, якія выкарыстоўваюцца ў кампутарах у Беларусі – гэта пірацкія копіі. Маштабы такога ценявога сектара, пабудаванага на парушэнні аўтарскага права, вельмі вялікія і з цяжкасцю паддаюцца дакладнай ацэнцы[1]. Пры гэтым імклівае развіццё тэхналогій перадачы інфармацыі яшчэ больш ускладняе працэсы ценявой эканомікі ў галіне парушэння аўтарскіх і сумежных правоў.

Складнікі гэтага сектара ценявой эканомікі:

– нелегальны анлайн-бізнэс па перадачы праз Інтэрнэт копій аб'ектаў аўтарскага права праз платформы ананімізаванага доступу (напрыклад, торэнт-трэкерам);

– манетызацыя нелегальнага доступу да аб'ектаў аўтарскага права праз рэкламу і платныя сэрвісы;

– ухіленне ад выплаты падаткаў праз фіктыўнае завышэнне выдаткаў у выглядзе роялці і іншых плацяжоў за выкарыстанне аб'ектаў аўтарскага права і іншых сумежных правоў;

– скажэнне справаздачнасці аб колькасці і часу абмежаванага платнага доступу да інфармацыі, якая з'яўляецца аб'ектам аўтарскага права;

– незаконны Інтэрнэт-гандаль ахоўнай інфармацыяй;

– нелегальныя транзакцыі з грашыма і лічбавымі фінансавымі актывамі (напрыклад, крыптавалютай) з мэтай абслугоўвання куплі-продажу інфармацыі, якая ахоўваецца аўтарскім правам;

– выкарыстанне нелегальна набытых аб'ектаў аўтарскага і сумежных правоў для атрымання прыбытку ў працэсе вытворчасці тавараў або аказання паслуг.

---

[1] Д.В. Иванова. *Горизонтальные связи права интеллектуальной собственности как подотрасли гражданского права (на примере соотношения с институтом недобросовестной конкуренции)* [в:] *Журн. Белорус. гос. ун-та. Право.* 2017, №1, с.. 62 – 68.

Варта адзначыць, што аб'екты аўтарскага права не толькі самі выступаюць у выглядзе тавару ў ценявой эканоміцы, але і служаць для "прыкрыцця" аперацый па вываду капіталу з краін, дзе такія транзакцыі абмежаваныя, а таксама для прыніжэння падаткаабкладальнай базы. Гэты від ценявых аперацый досыць шырока ўжываецца ў Беларусі.

Каб вызначыць аб'ём ценявой эканомікі ў сферы аўтарскага права, важна выявіць дэтэрмінуючыя фактары ўдзелу суб'ектаў у дадзеных незаконных аперацыях, у тым ліку макраэканамічныя, эканамічныя, псіхалагічныя, юрыдычныя дэтэрмінанты, спажывецкія выгады. Пералік такіх дэтэрмінант вельмі шырокі, да іх адносяцца: макраэканамічная сітуацыя ў краіне, узровень інфляцыі, празрыстасць разлікаў, стабільнасць нацыянальнай грашовай адзінкі, фінансавая і лічбавая пісьменнасць насельніцтва, узровень беспрацоўя, узровень прадпрымальніцкай ініцыятывы і свабоды, развіццё інстытутаў рынку і ўзровень канкурэнцыі, узровень развіцця банкаўскага сектара, даступнасць банкаўскіх крэдытаў і стабільнасць дэпазітаў, давер хатніх гаспадарак, узровень законапаслухмянасці грамадзян, узровень эканамічнай культуры і грамадскай самасвядомасці і многае іншае.

Гаворачы аб метадах разліку аб'ёмаў ценявых эканамічных аперацый у сферы аўтарскага права, неабходна адзначыць, што найбольшае распаўсюджванне для ацэнкі ценявой эканомікі ў сусветнай практыцы традыцыйна мае мадэль схаваных зменных MIMIC, пры выкарыстанні якой ценявы сектар эканомікі разглядаецца як латэнтная пераменная, якая звязаная з пэўным мноствам назіраных паказчыкаў. Ключавой задачай тут з'яўляецца выяўленне дастатковай колькасці даступных дэтэрмінант, а сама мадэль можа быць распрацавана з выкарыстаннем стандартных працэдур эканаметрыкі. У агульным выглядзе дэтэрмінанты, якія вызначаюць распаўсюджванне ценявой эканомікі ў галіне аўтарскага права, ўключаюць колькасць зарэгістраваных аб'ектаў аўтарскага права, доступ хатніх гаспадарак да сеціва Інтэрнэт, рэгуляванне абарот крыптавалют ў нацыянальным заканадаўстве, узровень інавацыйных і інвестыцыйных ільгот. Разам з тым, ацаніць ценявы абарот аб'ектаў аўтарскіх правоў такім метадам досыць складана, паколькі фактычна адсутнічае эмпірычная база дадзеных для правядзення разлікаў, і афіцыйныя статыстычныя базы не ўтрымліваюць неабходныя тыпы дадзеных, так як ценявая эканоміка па сваёй прыродзе носіць латэнтны характар. Разам з тым, дзейнасць ценявой эканомікі непазбежна скажае дадзеныя афіцыйнай статыстыкі, паколькі ценявая і легальная эканамічная дзейнасць непазбежна ўзаемадзейнічаюць

на якім-небудзь этапе эканамічнага абароту: набыцця рэсурсаў, вытворчасці тавараў і паслуг, размеркавання альбо спажывання. Больш за тое, выявіць параметры ценявых эканамічных аперацый дапамагае супярэчнасць паміж удзельнікамі ценявой эканамічнай дзейнасці: калі прапанова ў ценявы экономіцы зацікаўлена ў скажэнні дадзеных у бок іх мінімізацыі, то попыт, наадварот, зацікаўлены ў завышэнні дадзеных для ўтойвання даходаў і прыбытку. Таму крыніцай дадзеных для даследавання ценявой экономікі ў галіне аўтарскага права з'яўляецца афіцыйная статыстыка, публікуемая дзяржаўнымі органамі, цэнтральнымі і камерцыйнымі банкамі, грамадскімі і міжнароднымі арганізацыямі, а таксама буйнымі міжнароднымі кансалтынгавымі і аўдытарскімі кампаніямі.

Для выяўлення параметраў ценявой экономікі ў сферы аўтарскага права можна выкарыстоўваць некалькі метадычных падыходаў:

а) метад разыходжанняў, сутнасць якога заключаецца ў аналізе трансгранічных і ўнутраных (у рамках выбраных для даследавання краін) грашовых і адпаведных ім патокаў у сектары аўтарскага права з улікам дынамікі цэн і валютных курсаў, што дазволіць выявіць ценявую частка аперацый за кошт супярэчнасцяў у дадзеных паміж рэсурсамі і іх выкарыстаннем, паміж імпартам і экспартам (люстраны аналіз статыстыкі краін), паміж вытворчасцю і спажываннем і т. д. Для прымянення дадзенага метаду мэтазгодна пабудаваць сістэму балансавых мадэляў, у рамках якіх будуць выяўлены разыходжанні паміж рэсурсамі і іх выкарыстаннем у наступных сектарах:

– спажыванне (разыходжанне паміж даходамі і іх выкарыстаннем, спажываннем і зберажэннем);

– рознічны абарот аб'ектаў аўтарскага права (разыходжанне паміж вытворчасцю і імпартам з аднаго боку і спажываннем і экспартам з другога);

– інвестыцыі (разыходжанне паміж рэшткамі інвестыцыйных актываў і іх набыццём з аднаго боку і іх наяўнасцю і выбыццём з другога);

– чысты экспарт (люстранае супастаўленне статыстыкі экспарту і імпарту па краінах з улікам парадку фарміравання цаны);

б) метад экстрапаляцыі, пры якім ценявыя аперацыі ў сектары аўтарскага права выяўляюцца шляхам экстрапаляцыі выяўленых кантралюючымі і праваахоўнымі органамі выпадкаў такіх аперацый на ўсю сукупнасць эканамічнай дзейнасці ў дадзеным сектары за пэўны перыяд шляхам мяккага фактарнага мадэлявання эканамічных працэсаў. У дадзеным выпадку мэтазгодна вызначыць ключавыя фактарныя паказчыкі,

якія вызначаюць узровень ценявых аперацый метадам ранговай карэляцыі ў часе (паміж перыядамі) і прасторы (паміж краінамі і рэгіёнамі), а затым метадамі карэляцыйнага аналізу ўсталяваць разліковы аб'ём ценявых аперацый;

в) метад элімінавання, які дазваляе выявіць параметры ценявых аперацый у сектары аўтарскага права як розніцу паміж агульным аб'ёмам транзакцый і той часткай дадзенай сукупнасці транзакцый, легальнасць якіх не выклікае сумненняў. Для прымянення дадзенага метаду мэтазгодна пабудова адытыўных мадэляў, якія апісваюць адпаведнасць фінансавых транзакцый і адпаведных аперацый з актывамі. Неадпаведнасць дадзеных у сектары аўтарскага права пры адпаведнай інтэрпрэтацыі вынікаў дазваляе выявіць параметры ценявых аперацый;

3. Важнай перашкодай актывізацыі стварэння і патэнтнай абароны аб'ектаў аўтарскага права з'яўляецца адсутнасць прававой і метадычнай магчымасці іх адэкватнай ацэнкі[1]. Так, прадпрыемствы, якія спрабуюць паставіць на ўлік аб'ект аўтарскага права (часцей за ўсё інтэлектуальнай уласнасці) вымушаныя ўлічваць іх толькі затратным метадам (як суму выдаткаў на іх набыццё і (або) стварэнне). Пры гэтым, калі попыт на дадзены аб'ект будзе высокім, то розніца паміж цаной продажу і ўліковым коштам становіцца аб'ектам абкладання падаткам на дабаўленую вартасць (20 %), падаткам на прыбытак (18 %) і некаторымі квазіналогамі, пра якія гаварылася вышэй. З улікам каскаднага эфекту гэтыя падаткі складуць 35-40 % атрыманага прыбытку, што робіць набыццё і стварэнне аб'ектаў аўтарскіх правоў нявыгадным. Пазбегнуць гэтага можа дапамагчы змяненне сістэмы ацэнкі інтэлектуальнай уласнасці ў балансе прадпрыемства. Міжнародная практыка паказвае, што прадпрыемствы павінны атрымаць магчымасць выбару метаду ацэнкі з трох варыянтаў:

– выдатковага (ўжываецца ў цяперашні час);
– метада аналагаў;
– метада капіталізацыі.

Метад аналагаў заключаецца ў выбары падобнага аб'екта аўтарскіх правоў, па якім ужо вядомая цана рэалізацыі, з наступнай карэктывай гэтай цаны зыходзячы з адрозненняў ацэньваемага аб'екта ад аб'екта-аналага. Пры гэтым ацэнка складаецца з наступных асноўных этапаў:

[1] В.И. Кудашов. *Оценка и коммерциализация результатов интеллектуальной деятельности* / В.И. Кудашов, Ю.В. Нечепуренко, Л.Ю. Пшебельская. Минск, Амалфея, 2017, 307 с.

– распрацоўваецца шкала характарыстык аб'ектаў;

– выяўляецца, па якім з іх існуюць адрозненні;

– кожнай характарыстыцы прысвойваецца вагавы каэфіцыент зыходзячы з важнасці гэтай характарыстыкі для фарміравання кошту аб'екта;

– вырабляецца карэктываа цаны аб'екта-аналага.

Метад капіталізацыі прадугледжвае разлік планаванага прыбытку ад выкарыстання аб'екта аўтарскага або сумежнага права. Кошт аб'екта лічыцца роўным такой суме грошай, якая, будучы укладзенай у агульнадаступны фінансавы інструмент (напрыклад, банкаўскі ўклад), прынясе даход, роўны прыбытку ад выкарыстання ацэньваемага аб'екта.

Дадзены падыход да ацэнкі аб'ектаў аўтарскага і сумежных правоў на балансе прадпрыемства дазволіць апошняму выбіраць аптымальны ўліковы кошт такіх аб'ектаў. У залежнасці ад сітуацыі прадпрыемства можа быць зацікаўлена як ў максімізацыі, так і ў мінімізацыі ўліковага кошту аб'ектаў інтэлектуальнай уласнасці. Зацікаўленасць у мінімізацыі магчымая:

– пры неабходнасці павелічэння справаздачнага фінансавага выніку, так як кошт аб'екта прапарцыйны суме амартызацыйных адлічэнняў, якія з'яўляюцца часткай выдаткаў і, адпаведна, зніжаюць прыбытак арганізацыі, а пры рэалізацыі аб'екта прыбытак залежыць ад розніцы паміж цаной продажу і справаздачным коштам;

– пры рэарганізацыі кампаніі, звязанай з выхадам часткі інвестараў (заснавальнікаў), долю якіх прадпрыемства абавязана і (або) жадае выкупіць.

Зацікаўленасць у максімізацыі кошту магчымая пры:

– неабходнасці змяншэння падаткаабкладаемых базаў у рамках дзеючага заканадаўства;

– неабходнасці прыцягнуць капіталы знешніх інвестараў, так як чым вышэй кошт капіталу прадпрыемства, тым прывабней магчымасць інвеставаць;

– неабходнасці атрымання крэдытаў або пазык пад заклад маёмасці або іншыя віды забеспячэння абавязацельстваў, звязаных з коштам маёмасці.

Прымяненне падыходу да ацэнкі аб'ектаў інтэлектуальнай уласнасці, звязанага з выбарам метадаў ацэнкі, дазволіць стварыць больш істотныя фінансавыя стымулы для інвестыцый у такія аб'екты.

**Выснова.** Даследаванне стану і дынамікі працэсаў стварэння, рэгістрацыі і камерцыялізацыі аб'ектаў аўтарскага права і сумежных правоў у Беларусі дазволіла зрабіць выснову аб перманентнай стагнацыі гэтага сектара эканомікі. Акрамя неэфектыўнай сістэмы дзяржаўнага рэгулявання эканомікі, якая зніжае попыт на інавацыйныя распрацоўкі, важную ролю адыгрываюць наяўнасць маштабнага ценявога сектара абароту аб'ектаў аўтарскіх правоў, а таксама нярынкавая сістэма ацэнкі кошту гэтых аб'ектаў. Для выпраўлення сітуацыі, акрамя комплексу мераў па вызваленні эканомікі ад неэфектыўнага рэгулявання, неабходна ацаніць маштабы ценявога абароту аб'ектаў аўтарскага права з мэтай яго элімінавання, а таксама змяніць падыходы да ацэнкі аб'ектаў інтэлектуальнай уласнасці з мэтай прадастаўлення выбару метадаў ацэнкі самому ўласніку.

**Бібліяграфія**

*Об авторском праве*. Национальный центр интеллектуальной собственности [Электронны рэсурс]. – URL: https://ncip.by/avtorskie – i – smezhnye – prava/ob – avtorskom – prave/. – Дата доступу: 25.11.2021.

*О смежных правах*. Национальный центр интеллектуальной собственности [Электронны рэсурс]. – URL: https://ncip.by/avtorskie – i – smezhnye – prava/o – smezhnyh – pravah/. – Дата доступу: 25.11.2021.

Леанович Е.Б. *Права интеллектуальной собственности на мировом рынке: перспективы для Республики Беларусь*. Минск, БГУ, 2018, 183 с.

*Годовой отчет Национального центра интеллектуальной собственности Республики Беларусь за 2020 год*. Национальный центр интеллектуальной собственности [Электронны рэсурс]. – URL: https://www.ncip.by/upload/iblock/2f4/2f45eac8a12ac6fef2e4b8089452e14f.pdf. – Дата доступу: 01.12.2021.

Иванова Д.В. *Горизонтальные связи права интеллектуальной собственности как подотрасли гражданского права (на примере соотношения с институтом недобросовестной конкуренции)* [в:] *Журн. Белорус. гос. ун-та. Право*. 2017, №1, с. 62 – 68.

Кудашов В.И. *Оценка и коммерциализация результатов интеллектуальной деятельности* / В.И. Кудашов, Ю.В. Нечепуренко, Л.Ю. Пшебельская.Минск, Амалфея, 2017, 307 с.

ГІСТОРЫЯ І КУЛЬТУРАЛОГІЯ

Наталля Сліж[1]

# Луннікі тэматычнага характару ў Вялікім Княстве Літоўскім[2]

Natallia Slizh

# Thematic lunaries in the Grand Duchy of Lithuania

**Ключавыя словы**: луннікі, астралогія, Вялікае Княства Літоўскае
**Key words**: lunaries, astrology, the Grand Duchy of Lithuania

**Рэзюме:** Артыкул прысвечана уласна тэматычным луннікам. Яны ўтрымліваюць інфармацыю ў адпаведнасці з канкрэтнымі тэмамі з першага дня па 29 - й або трыццаты дзень месяцовага цыклу. Луннікі былі вядомыя ў розных пластах грамадства. Яны распаўсюджваліся шляхам перакладу або перапісвання. Луннікі можна было выкарыстоўваць для прагназавання, медыцыны і магіі.

**Abstract**: The article is devoted to lunaries proper. They present the information according to the specific topics from the first day to the 29th or thirtieth day of the Moon cycle. Lunaries were known in different strata of society. They were spread by translation or rewritten. Lunaries could be used for prognosis, medicine and magic.

Луннікі даўно з'яўляюцца прадметам даследавання ў сусветнай гістарыяграфіі[3]. Таксама звярталася ўвага на гэты від крыніц у Вялікім Княстве Літоўскім[4]. Луннікі былі вядомы са старажытнасці,

[1] Еўрапейскі Універсітэцкі Інстытут, кандыдат гістарычных навук, Фларэнцыя, Італія

[2] Даследаванне выканана дзякуючы навуковым стажыроўкам пры Нямецкім гістарычным інстытуце ў Варшаве і пры Універсітэце ў Беластоку па праграме "Салідарны з Беларуссю".

[3] Напрыклад: M. *Förster*, *Vom Fortleben antiker Sammellunare im englischen und in anderen Volkssprachen*, „Anglia", 1944, nr 67/68, p. 1-171; S. Weinstock, *Lunar Mansions and Early Calendars*, „The Journal of Hellenic Studies", 1949, vol. 69, p. 48-69; I. Taavitsainen, *Middle English Lunaries: A Study of the Genre*, Helsinki 1988; L.S. Chardonnens, *Anglo-Saxon Prognostics, 900–1100: Study and Texts*, Leiden 2007.

[4] В. Перетц, *Материалы к истории апокрифа и легенды*, т. 2, Санкт-Петербург 1901; Д. Скварчэўскі, *Луннікі ў рукапісным зборніку XVI ст. з бібліятэкі Супрасльскага Благавешчанскага манастыра*, [у:] *Матэрыялы XI Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў «Кніжная культура Беларусі XI пачатку XX ст.», Мінск, 16–17 красавіка 2015 г.*, рэдкал.: Р. С. Матульскі і інш, Мінск 2015, с. 89-94.

выкарыстоўваліся у розных культурах. Вялікае Княства Літоўскае не было ў гэтым плане выключэннем.

У дадзенай працы звяртаецца увага на луннікі ВКЛ тэматычнага характару спецыяльнага тыпу. Паказаны асобныя тэндэнцыі, бо выяўлена некалькі тэкстаў. Яны не дазваляюць даць больш глыбокі аналіз і тэндэнцыі ў распаўсюджванні гэтага віду луннікаў.

*Месяц і яго ўплыў*. Месяц бліжэй за ўсіх знаходзіцца да зямлі, мае самы моцны ўплыў на яе. Ён добра бачны, яго фазы можна прасачыць і праз назіранне зрабіць высновы. У астралогіі свяціла мае жаночае аблічча, адказвае за штодзённасць, эмоцыі, псіхалогію, сон, падсвядомасць. Месяц звязваецца з побытавым жыццём: з ежай, нарыхтоўкамі, пачаткам спраў і іншым. Ён непасрэдна ўплывае на фізіялагічныя працэсы, здароўе, псіхалагічны стан. Сон з'яўляецца часткай нашага псіхалагічнага жыцця, таму ён таксама знаходзіцца пад уздзеяннем Месяца.

Пра ўплыў Месяца на працэсы на зямлі пісаў яшчэ Пталімей. Ён адзначаў, што свяціла ўплывае на жывёл і раслін, на рэкі і мара. Найбольшае ўздзеянне адбываецца ў маладзік, першую і апошнюю чвэрць, а таксама ў поўню[1]. У астралогіі Сонца і Месяц лічыліся свяціламі і найважнейшымі паказальнікамі. У "Шмарагдавай табліцы" Гермеса Трысмегіста адзначалася, што Сонца – гэта бацька, а Месяц – маці[2]. Герметызм быў вядомы ў Еўропе, Польшчы і ВКЛ і меў уплыў на астралогію, бо таксама ў склад вучэння ўваходзілі астралагічныя палажэнні.

У сучаснай навуцы даказаны непасрэдны ўплыў Месяца на біярытмы чалавека[3]. Яго фазы маюць важнае значэнне для правядзення хірургічных аперацый. Было адзначала хірургамі, што за пару дзён да поўні і ў саму поўню падчас аперацый страта крыві значна большая, чым у іншыя дні. Таксама прасочана ўздзеянне Месяца на псіхічны стан людзей і колькасць крымінальных злачынстваў. Асабліва пагаршалася крымінальная сітуацыя ў час поўні[4].

У беларускай народнай культуры існуюць свае прыкметы адносна фаз Месяца. У Брагінскім раёне лічылася, што на сёмы дзень маладзіка трэба

[1] K. Ptolemeusz, *Czworoksiąg*, przeł., przypisami i wstępami opatrzyli G. Muszyński, J. Włodarczyk, Wrocław 2012, s. 61-62, 136.
[2] R. Bugaj, *Hermetyzm*, Wrocław 1991, s. 120.
[3] А. Дубров, Лунные ритмы у человека (Краткий очерк по селеномедицине), Москва 1990.
[4] M. Gauquelin, *The cosmic clocks: From astrology to a modern science,* New York 1969, p. 149-151.

квасіць капусту. Таксама на малады Месяц трэба класці печку, каб была цёплай[1]. У Хойніцкім краю не карчавалі на маладзіку хмызняк, бо хутка адрасце; не шаткавалі і ставілі на зіму капусту, не салілі гуркі, бо усё будзе нясмачнае; на поўню не сеялі гуркі, кавуны, гарбузы, гарох, боб, мак, бо яны будуць цвісці пустацветам; на ветаху не пачыналі нічога новага. Але добра маладзіку касіць, стрыгчыся, першы раз выходзіць у поле, жаць; на ветаху – карчаваць зараслі, лячыць раны, рабіць усё, каб зажыло, звялося, згінула[2]. Гэтыя назіранні маюць пад сабой падставу і слушныя з пункту гледжання сучаснай астралогіі. Сапраўды для развіцця справы абіраюць маладзіць, а для сканчэння – ветах.

*Луннік, як тып крыніцы*. Тэрмін "луннік" ужываўся на старабеларускай мове ў Вялікім Княстве Літоўскім адносна календара Месяца. Яго мы таксама будзем выкарыстоўваць у нашым тэксце. У замежнай літаратуры сустракаюцца тэрміны ў залежнасці ад мовы – lunar, lunare, lunary, lunaria, lunarium, selenodromium. Усе яны адносіцца да календару Месяца[3].

Некаторыя даследчыкі адносяць луннікі да прагностыкаў разам з громнікамі, каляднікамі і іншымі тэкстамі[4]. Гэта сапраўды мае сэнс. Самі луннікі можна выкарыстоўваць для прагназавання, таксама як і ў спалучэнні з метадамі электыўнай астралогіі, якая займаецца выбарам спрыяльных дат для розных падзей. Пры складанні электыўнай карты звяртаецца ўвага на фазу Месяца і знаходжанне ў знаку. Рэкамендуецца размяшчаць Месяц у знаку, які адказвае за накірунак. Напрыклад, для касметычных працэдур лепш калі Месяц у Шалях, для таемных спраў у Скарпіёне, для будаўніцтва і рамонту – у Казярогу і г.д.[5] У тыя часы складаць электыўную карту ў астролага не заўсёды было магчыма. Таму выкарыстоўваўся дзень і знак Месяца.

Нямецкі даследчык Эмануіл Свэнберг вылучыў два асноўных тыпы календароў Месяца. Першы - спецыяльны луннік (Lunaria Specialia) - даваў характарыстыку па днях Месяца з 1 па 28, 29 ці 30, а другі – задыякальны луннік (Zodiologia) – па праходу Месяца па знаках задыяку. Гэтыя тыпы

---

[1] А. Кастрыца, *Асаблівасці светапогляду жыхароў Брагіншчыны ў прыкметах, павер'ях, магічных дзеяннях,* [у:] *Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі*, вып. 27, Мінск 2020, с. 282.

[2] Б. Сачанка, *Вечны кругазварот*, [у:] *Хойнікшчыны спеўная душа*. *Народная духоўная культура Хойніцкага краю. Фальклорна-этнаграфічны зборнік*, Мінск 2010, с. 73.

[3] I. Taavitsainen, *op. cit.*, p. 50-51.

[4] I. Taavitsainen, *op. cit.*, p. 23; L.S. Chardonnens, *op. cit.*, p. 393.

[5] Гл. напрыклад: В. Робсон, *Элективная астрология*, Москва 2003.

былі распаўсюджаны са старажытнасці ў многіх краінах[1]. Даследчыкі прытрымліваюцца гэтай тыпалагізацыі, а таксама ўводзяць іншыя падзелы. У гістарыяграфіі існуюць і іншыя падзелы. Усе яны сыходзяць з таго, якія тыпы крыніц захаваліся. Аднак варта адзначыць, што спецыяльны і задыякальны луннікі пабудаваны па рознаму прынцыпу. Гэта дзве асобныя групы. Унутры іх таксама існуе падзел[2].

Па зместу спецыяльныя луннікі былі зборнага і тэматычнага характару. Зборныя луннікі рабілі прагназаванне па снах, нараджэнню, хваробах, пусканню крыві, маёмасці, гандлю, вандроўках, сельскагаспадарчых працах, шлюбу. Тэматычныя луннікі былі прысвечаны адной ці некалькі тэмам. Часта ў іх вызначаліся добрыя і дрэнныя дні, прагназаваліся вынікі сну, лёс народжаных дзяцей[3]. Напрыклад, луннікі сярэднявечнай Англіі агаворвалі нараджэнне дзяцей, падарожжы, дні для пусканне крыві, прагназавалі лёс хворага і іншае[4]. Для ВКЛ тэндэнцыя была падобная. Тут мелі месца зборныя і тэматычныя спецыялізаваныя луннікі.

*Луннікі тэматычнага характару*. Тэматычныя луннікі ВКЛ закраналі адну ці дзве тэмы. Тэксты ўтрымлівалі інфармацыю пра добрыя і дрэнныя дні, сны, нараджэнне дзяцей.

Першыя луннікі прыходзяць на славянскія землі даволі рана. Адзін з такіх змешчаны ў Кодэксе Гертруды ці Малітоўніку Гертруды. У заходняй літаратуры вядомы яшчэ як Псалтыр Эгберта. Сам рукапіс складаецца з двух частак. Першая частка была напісана біскупам Эгбертам (977-993). Другую частку даследчыкі адносяць да Гертруды (1078-1086). Гертруда была дачкой польскага караля Мялешкі II Ламберта і Рыхезы. Яна выйшла замуж за Ізяслава, сына Яраслава Мудрага, і пераехала ў Кіеў[5]. У рукапісу змешчаны луннік і Каляднік[6]. Луннік утрымлівае інфармацыю пра добрыя і

[1] E. Svenberg, *Lunaria et zodiologia Latina*, Stockholm, 1963.

[2] Н. Щавелева, *«Астрологическое зерцало» в молитвеннике XI в.* „Историко-астрономические исследования”, 1994, вып. 24, с. 249-251; L.S. Chardonnens, *op. cit.*, p. 396-405.

[3] L.S. Chardonnens, *op. cit.*, p. 397, 399-400.

[4] *M. Förster*, *op. cit.*, p. 6-7; L.S. Chardonnens, *op. cit.*, p. 397, 400-421; R.M. Liuzza, *Anglo-Saxon prognostics in context: a survey and handlist of manuscripts*, „Anglo-Saxon England”, 2001, vol. 30, p. 186-188.

[5] G. Pac, *Kalendarz* z *Kodeksu Gertrudy jako świadectwo dewocji monarszej*. *Wokół kultu świętych na styku chrześcijaństwa łacińskiego* i *wschodniego* w *XI wieku*, „Roczniki Historycznie”, t. 84, 2018, s. 31-67.

[6] B. Kürbis, *O inspiracji okultystycznej w średniowiecznej wizii dziejów*, „Świadomość historyczna Polaków: problemy i metody badawcze, pod red. J. Topolskiego. Łódź 1981, s. 78-

дрэнныя дні, а таксама пра сны. Соннікі мелі месца ў антычнасці, старажытнай Грэцыі і Візантыйскай Імперыі[1], у Еўропе ў XV–XVI стст.[2] Таму зразумела стварэнне тэкстаў, дзе былі звязаны луннікі і соннікі.

Дні, прыведзеныя ў Лунніку з Кодэкса Гертруды, можна падзяліць на тры групы: добрыя (1, 7, 10, 12, 13, 14, 17, 19, 20, 24, 27, 29), часткова добрыя (з нейкай гадзіны 3, 4, 8, 13, 21, 22, 23), дрэнныя (2, 5, 6, 9, 11, 15, 16, 18, 25, 26, 28, 30). Сны згадваюцца не ва ўсіх днях, а толькі 1, 5, 7, 10–13, 16, 18, 20–22. Звязваюць яго падабенства з луннікамі па пусканню крыві[3].

Падобныя лацінскамоўныя луннікі мелі распаўсюджанне ў сярэднявеччы. Верагодна тут аўтар мае рацыю ў азначэннях дзён. Сумарна ў англійскім лунніку атрымліваюцца добрыя дні – 1, 7, 14, 17, 19, 24, 27, 29; добрыя ад нейкай гадзіны – 3, 4, 8, 9, 13, 21, 22, 23; дрэнныя - 2, 5, 6, 9–12, 15, 18, 25, 26, 28, 30 і бессэнсоўны 16[4]. З луннікам Гертруды не супадаюць 12, 13,16, 20, 26, 28 дні. Падабенства ў змесце і сутнасці такіх луннікаў прасочваецца. Таксама сведчыць пра іх шырокае распаўсюджанне. Звязваюць такія луннікі магічнай практыкай і пусканнем крыві.

Луннік у вершаванай форме быў напісаны Станіславам Самуэлем Шэметам (каля 1657–1684). Луннік уваходзіў у трактат, прысвечаны снам[5]. У назве адзначалася, што напісаны ён быў на падставе кніг прарока Данііла “Pewność snów z ksiąg Danijelowych wyjęta i wierszem przewrócona, gdzie każdego miesiąca może być przeze dni znamię snów uważone”. Назва луннікаў, звязаная з прарокам, часта сустракалася ў сярэднявечных тэкстах[6]. Таксама

80; Н.И. Щавелева, *op. cit.*, c. 244-252; *Modlitwy księżnej Gertrudy* z *Psałterza Egberta z Kalendarzem,* oprac. *B. Kürbis,* Kraków *2002, s. 35, 116-118;* J. Zagożdżon, *Sen w literaturze średniowiecznej i renesansowe,* Opole 2002, s. *227-228.*

[1] M. Mavroud, *A Byzantine book* on *dream interpretation*: *the Oneirocriticon of Achmet and its Arabic sources,* Leiden, Boston, Köln 2002; *M. Grünbart, Prognostication in the Medieval Western Christian World,* [in:] *Prognostication in the Medieval World: A Handbook,* ed. M. Heiduk, K. Herbers, H.-Ch. Lehner, Berlin 2020, p. 159.

[2] L.S. Chardonnens, *Dream divination in manuscripts and early printed books: patterns of transmission,* [in:] *Aspects of Knowledge: Preserving and Reinventing Traditions of Learning in the Middle Ages*, ed. M. Cesario, H. Magennis, Manchester 2018, p. 23-52.

[3] Н. Щавелева, *op. cit.*, c. 246; *Modlitwy księżnej Gertrudy...*, s. *35, 116-118.*

[4] L.S. Chardonnens, *The good and evill dayes of the moneth to worke in Lunaries in European Magic Manuscripts, „International Journal of Divination and Prognostication”, 2019, № 1,* p. 104-119.

[5] J. Zagożdżon, *op. cit., s. 242.*

[6] I. Taavitsainen, *The Identification of Middle English Lunary MSS,* „Neuphilologische Mitteilungen”, 1987, vol. 88, no. 1, p. 18.

ў тыя часы быў вядомы Соннік прарока Данііла (Somniale Danielis), у якім тлумачыліся сны. Ён меў грэчаскае паходжанне і першапачаткова звязваўся з Артэмідай, пасля атрымаў распаўсюджанне ў арабскім свеце, быў перакладзены на лацінскую мову[1]. Гэты від соннікаў быў распаўсюджаны ў Рэчы Паспалітай[2]. Відавочна, што Шэмет быў знаёмы з падобнымі творамі і перапрацаваў іх.

У вершаванай форме давалася характарыстыка сноў на ўсе 30 дзён Месяца: 1 дзень – бяспечныя сны, але не заўсёды варта верыць ім; 2 - сны прыносяць весялосць, але значэнне іх прыходзіць пазней; 3 – зманлівы, 4 – падманлівы; 5 – вясёлы, прынясе карысць; 6 – добры, дае парады; 7 – дае парады, але словам; 8 – сон правільны, хутка здзяйсняецца; 9 – дае засцеражэнне; 10 – фальшывы, 11 – збудзецца праз 3 дні, 12 – збудзецца праз 7 дзён; 13 – збудзецца праз 13 і болей дзён; 14 – што сон абяцае, тое і здзейсніцца хутка; 15 – каштоўны як і ў 14 дзень; 16 – прароцкі; 17 – хутка збудзецца; 18 – пакажа вынік у 19 дні; 19 – сэнс пакажа ў 20; 20 – праз 7 дзён вынік; 21 – што ў сне, то і ў рэчаіснасці; 23 – не здзейсніцца; 24 – не здзейсніцца; 25 – праз 12 дзён пакажа сэнс сну; 26 – здзейсніцца праз 12 дзён; 27 – не паказвае праўду; 28 – зманлівы; 29 – зманлівы; 30 – здзейсніцца праз 24 дні[3].

Цікава, што далей шэраг вершаў Шэмета прысвечана снам. У адным з іх праводзіцца непасрэдная залежнасць паміж ежай перад сном і вобразамі ў сне[4]. Хоць у той час і панавалі сонікі, але не так часта можна сустрэць у літаратуры цыкл вершаў на тэму сну. Па зместу гэтага цыклу бачна дасведчанасць аўтара ў творах, прысвечаных снам. Яны былі не толькі прачытаны, але і пераасэнсаваны. У наступным вершы Шэмет тлумачыць, што ў розныя дні розны эфект ад сноў. Гэта звязана з тым, што на сны ўплывае палажэнне Сонца і планет. У гэтым ён правы. Хоць Месяц з'яўляецца важным фактарам, які ўплывае на псіхічны стан, аднак змены ў канфігурацыях планет і Сонца таксама важныя. Эфект будзе добры, калі планеты ў добрым аспекце з Месяцам. Гэта працуе і ў адваротным стане. Гэта сведчыць ужо пра знаёмасць аўтара з астралагічнымі ведамі.

Emplikacyja

[1] M. Mavroudi, *op. cit.*; V. Cappozzo, *The Transmission of the Somniale Danielis, from Latin to Vernacular Italian (Laurenziano Martelli 12 and Riccardiano 859)*, „Translat Library", 2020, no. 1, p. 1-32.
[2] J. Zagożdżon, *op. cit.*, s. *231-235.*
[3] S.S. Szemiot, *Sumariusz wierszów,* wyd. i oprac. M. Korolko, Warszawa 1981, s. 205-207.
[4] *Ibidem*, s. 207-212.

*Że sny co dzięn to różne w miesiący bywają,*
*Nie dziw, bo też i różne dni efekta mają.*
*Jedne w lepszym znamieniu, drugie w pospolitym,*
*Trzecie we złym, a czwarte aż nazbyt obfitym,*
*Co wszystko czyni słońce z świetnymi gwiazdami*
*I miesiąc z ognistymi nieba planietami*[1].

Былі луннікі, якія вызначалі лёс дзяцей па дню Месяца. Яны мелі распаўсюджанне і ў іншых краінах таксама, напрыклад, у Англіі[2]. Такім прыкладам з’яўляецца рукапіс з Магілёўскага брацкага манастыра Ён утрымлівае шмат тэкстаў рэлігійнага характару, нават вершы аб п’янстве. Сярод іншага спецыяльны тэкст па астралогіі [дадатак 1][3], змешчаны пад № 29 “Ведомость о роках климатерічных, обсерванція автора римскога в року 1652 выдана”. Тэкст з’яўляецца перакладам з польскай мовы. Аб гэтым адзначана ў канцы: пераклад быў зроблены з віленскага выдання “Klucz prognostykarski”. Намі гэта выданне не выяўлена. Але ў 50-х XVII ст. у Гданьску выходзіла шэраг выданняў з такой назвай. У іх змест уваходзілі соннік, кіруючыя знакі задыяку над краінамі, каляндар[4]. Пасля такія публікацыі выдаваў Супрасльскі манастыр. Інфармацыя пра нараджэнне дзяцей, падобная на звесткі з рукапісу, была змешчана у выданні “Klucz prognostykarski” (1737[5], 1781[6]). Тэкст з выдання 1781 г. супадае з перакладам. У пачатку змешчаны звесткі, што ён выдадзены быў у Рыме ў 1652 г. Але яшчэ прыводзіліся небяспечныя гады жыцця для кожнага знаку задыяку.

Згодна з луннікам небяспеку, хваробы, слабасць, кароткі перыяд жыцця для народжаных прадстаўлялі 1, 3, 4, 5, 6, 8, 9, 11, 14, 18, 19, 21, 23, 26, 29 дні. Здароўе і даўгалецце давала нараджэнне ў 2, 7, 10, 15–17, 20 дні. Агульна прыведзена інфармацыя пра 29 дзён. Да тэксту дададзена заўвага,

---

[1] *Ibidem*, s. 207.

[2] L.S. Chardonnens, *op. cit.*, p. 397, 426-436.

[3] *Белорусский сборник XVII века. Рукопись могилевского епархиального церковного древнехранилища,* [в:] *Сборник статей Могилёвских Губернских Ведомостей*, вып. 1: 1898 и 1899 гг. Могилев-Губернский 1900, с. 4; В. Перетц, *op. cit.*, с. 117-119.

[4] *Klucz prognostykarski*, Gdańsk 1655, 1658, 1659.

[5] M. Krzysztofik, *Astrologia jako ideologia totalna na przykładzie polskiej kalendariografii XVII-wiecznej*, [w:] *Ideologie w słowach i obrazach*, t. 1, pod.red. I. Kamińska-Szmaj, T. Piekot, M. Poprawa, Wrocław 2008, s. 175-183.

[6] *Klucz Prognostykarski*… Supraśl 1781, k. 18v–19; J. Getka, *Polskojęzyczne druki bazyliańskie (XVIII wiek)*, Warszawa 2013, s. 198-199.

што гэта не евангелле, якому трэба верыць, складзены ён быў з парады астролагаў. Духавенства заўсёды праяўляла цікавасць да астралогіі. Некаторыя асобы нават практыкавалі яе. Таму змяшчэнне гэтага тэксту сярод іншых заканамерная з’ява.

*Высновы*.

Лунікі былі ўніверсальнымі тэкстамі, да якіх мелі цікавасць у розных краінах. Яны распаўсюджваліся праз перапісванне і пераклады. Да іх звярталіся як свецкія, так і духоўныя асобы. У ВКЛ луннікі тэматычнага характару апісвалі добрыя і дрэнныя дні, былі звязаны са снамі і нараджэннем дзяцей. Іх можна было выкарыстоўваць для прагназавання, магіі, медыцыны.

## Дадатак 1. Лунік тэматычнага характару, XVII ст.

Лунік друкуецца на падставе: *Белорусский сборник XVII века. Рукопись могилевского епархиального церковного древнехранилища*, „Сборник статей Могилёвских Губернских Ведомостей”, вып. 1. 1898 и 1899 гг., Могилев-Губернский 1900.

[4] Ведомость о рокахъ климатеричныхъ.

О детяхъ родячихся якъ долго жіючи*х* и ро*с*тячи*х*, также сходящихъ смертію. Почавши о самаго новю ксенжица. Детя, которое ся родить въ д(е)нь самый новю, коро*т*ко живе, также и третяго дня по новю. А которое зась другого дня по новю, долгого бывае*т* веку. А четвертаго дня нарожоное бывае*т* слабое и песливое. А пятаго дня нарожоное небезбечнаго житя. Шостаго дня бываетъ хоровитое. Семаго дня долго жіючее. Осмаго дня в молодомъ веку з света сходи. Девятаго дня слабое бывае*т* и малое. Десятаго дня о*т* новю дитя зась на све*т* выходячое старости великое доходи*т*. Адинанцаты*й* небезпечны. Дванаднацты*й* мерныи век живота. Тринадцатаго дня о*т* новю дитя на све*т* выходячое ежели до осмнацат буде*т* жи*т* долго поживе*т*. Четырнацаты*й* д(е)нь поде*и*зроный. Пя*т*нанцаты*й* долголетный. Ше*ст*нанцаты*й* и семнацаты*й* здравіе на теле бывае*т*. Осемнацаты*й* непевнаго житія. Деве*т*нанцатый также. Два*д*цатый силное и долговечное. Два*д*цать первого непоцешный. Двадцать вторый мерный. Два*д*ца*т* третій з хоробами часто буде*т* бедится. Два*д*ца*т* четверты*й* злы*й*. Два*д*ца*т* пяты*й* на сила*х* шванкуетъ. Два*д*ца*т* шостый небезпечный. Два*д*ца*т* семый мерны*й* векъ. Два*д*ца*т* осмы также

мерны*й.* Два*д*ца*т* девяты*й* на сходе м(есе)ца розны*м* хороба*м* по*д*легае*т* и не трвалый.

**Бібліяграфія:**

Літаратура:


Bugaj R., *Hermetyzm*, Wrocław 1991.

Cappozzo V., *The Transmission of the Somniale Danielis, from Latin to Vernacular Italian (Laurenziano Martelli 12 and Riccardiano 859)*, „Translat Library", 2020, no. 1, p. 1-32.

Chardonnens L.S., *Anglo-Saxon Prognostics, 900–1100: Study and Texts*, Leiden 2007.

Chardonnens L.S., *Dream divination in manuscripts and early printed books: patterns of transmission*, [in:] *Aspects of Knowledge: Preserving and Reinventing Traditions of Learning in the Middle Ages*, ed. M. Cesario, H. Magennis, Manchester 2018, p. 23-52.

Chardonnens L.S., *The good and evill dayes of the moneth to worke in Lunaries in European Magic Manuscripts, „International Journal of Divination and Prognostication", 2019, № 1*, p. 104-119.

Einer E., *Astral Magic in Babylonia*, vol. 85, part 4, Philadelphia 1995.

Faracovi O.P., *Le mansioni lunari*, „Bruniana & Campanelliana", 2007, vol. 13, no. 2, p. 703-709.

*Först*er M., *Vom Fortleben antiker Sammellunare im englischen und in anderen Volkssprachen*, „Anglia", 1944, nr 67/68, p. 1-171.

Gauquelin M., *The cosmic clocks: From astrology to a modern science*, New York 1969.

Getka J., *Polskojęzyczne druki bazyliańskie (XVIII wiek)*, Warszawa 2013.

*Grünbart M., Prognostication in the Medieval Western Christian World*, [in:] *Prognostication in the Medieval World: A Handbook*, ed. M. Heiduk, K. Herbers, H.-Ch. Lehner, Berlin 2020, p. 154-160.

*Hołda J.*, „*Dwadzieścia osiem księżycowych stacji w stosunku do magicznych operacji*, „Kwartalnik Historii Nauki i Techniki", 2004, t. 49, nr 2, s. 7-31.·

*Klucz prognostykarski*, Gdańsk 1655, 1658, 1659.

*Klucz Prognostykarski*… Supraśl 1781.

Krzysztofik M., *Astrologia jako ideologia totalna na przykładzie polskiej kalendariografii XVII-wiecznej*, [w:] *Ideologie w słowach i obrazach*, t. 1, pod.red. I. Kamińska-Szmaj, T. Piekot, M. Poprawa, Wrocław 2008, s. 175-183.

Liuzza R.M., *Anglo-Saxon prognostics in context: a survey and handlist of manuscripts*, „Anglo-Saxon England”, 2001, vol. 30, p. 186-188.

Kürbis B., *O inspiracji okultystyscznej w średniowiecznej wizii dziejów*, „Świadomość historyczna Polaków: problemy i metody badawcze, pod red. J. Topolskiego, Łódź 1981, s. 78-80.

Mavroud M., *A Byzantine book* on *dream interpretation*: *the Oneirocriticon of Achmet and its Arabic sources*, Leiden, Boston, Köln 2002.

*Modlitwy księżnej Gertrudy* z *Psałterza Egberta z Kalendarzem*, oprac. *B. Kürbis*, Kraków *2002*.

Ptolemeusz K., *Czworoksiąg*, przeł., przypisami i wstępami opatrzyli G. Muszyński, J. Włodarczyk, Wrocław 2012.

Pac G., *Kalendarz* z *Kodeksu Gertrudy jako świadectwo dewocji monarszej*. *Wokół kultu świętych na styku chrześcijaństwa łacińskiego* i *wschodniego* w *XI wieku*, „Roczniki Historycznie”, t. 84, 2018, s. 31-67.

Szemiot S.S., *Sumariusz wierszów,* wyd. i oprac. M. Korolko, Warszawa 1981.

Svenberg E., *Lunaria et zodiologia Latina*, Stockholm, 1963.

Taavitsainen I., *Middle English Lunaries: A Study of the Genre*, Helsinki 1988.

Taavitsainen I., *The Identification of Middle English Lunary MSS*, „Neuphilologische Mitteilungen”, 1987, vol. 88, no. 1, p. 18-26.

Weinstock S., *Lunar Mansions and Early Calendars*, „The Journal of Hellenic Studies”, 1949, vol. 69, p. 48-69.

Zagożdżon J., *Sen w literaturze średniowiecznej i renesansowe,* Opole 2002.

*Белорусский сборник XVII века. Рукопись могилевского епархиального церковного древнехранилища,* [в:] *Сборник статей Могилёвских Губернских Ведомостей,* вып. 1: 1898 и 1899 гг. Могилев-Губернский 1900.

Дубров А., Лунные ритмы у человека (Краткий очерк по селеномедицине), Москва 1990.

Перетц В., *Материалы к истории апокрифа и легенды*, т. 2, Санкт-Петербург 1901.

Скварчэўскі Д., *Луннікі ў рукапісным зборніку XVI ст. з бібліятэкі Супрасльскага Благавешчанскага манастыра*, [у:] *Матэрыялы XI Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў «Кніжная культура Беларусі XI пачатку XX ст.», Мінск, 16–17 красавіка 2015 г.,* рэдкал.: Р. С. Матульскі і інш, Мінск 2015, с. 89-94.

Кастрыца А., *Асаблівасці светапогляду жыхароў Брагінсшчыны ў прыкметах, павер'ях, магічных дзеяннях,* [у:] *Пытанні мастацтвазнаўства, этналогіі і фалькларыстыкі*, вып. 27, Мінск 2020, с. 282-290.

Робсон В., *Элективная астрология*, Москва 2003.

Сачанка Б., *Вечны кругазварот*, [у:] *Хойнікшчыны спеўная душа. Народная духоўная культура Хойніцкага краю. Фальклорна-этнаграфічны зборнік*, Мінск 2010, с. 70-85.

Щавелева Н., *«Астрологическое зерцало» в молитвеннике XI в.* „Историко-астрономические исследования", 1994, вып. 24, с. 249-251; L.S. Chardonnens, *op. cit.*, p. 396-405.

С.Я.Куль-Сяльверстава[1]

## Буйныя адзінкі летазлічэння ў паўсядзённым жыцці насельніцтва беларускіх земляў у канцы XVIII- першай палове XIX стагоддзя.

Sviatlana Kul-Sialverstava

## Large units of chronology in the daily life of the population of the Belarusian lands at the end of the18th - first half of the 19th century.

**Ключавыя словы:** летазлічэнне, эра, эпоха, год, паўсядзённае жыццё, беларускія землі.

**Key words:** chronology, era, epoch, year, daily life, Belarusian lands.

**Рэзюме:** У артыкуле аналізуецца практыка ўжывання буйных адзінак летазлічння – эры, стагоддзя і года ў паўсядзённым жыцці розных варстваў беларускага грамадства ў канцы XVIII-першай палове XIX стагоддзяў. У выніку аналізу выяўлена дыферэнцыяцыя выкарыстання гэтых адзінак: адукаваныя варствы пачынаюць ужываць тэрміны "эра" і "стагоддзе" для рэфлексіі над мінулым; ва ўжытак уваходзіць паняцце "эпоха", якое азначае акрэслены перыяд у гісторыі грамадства і падкрэслівае яго адметныя рысы. Сялянства ў гэты час яшчэ жыве паводле часовай парадыгмы традыцыйнай культуры, вымяраючы час гадамі без выкарыстання больш працяглых і акрэсленых на стужцы часу адрэзкаў. Аналіз ужывання буйных адзінак летазлічэння можа быць добрым індыкатарам для выяўлення працэсаў мадэрнізацыі грамадства, а таксама ступені фармавання мадэрновых нацый: уваходжанне ў паўсядзённы зварот буйных адзінак летазлічэння з'яўляецца паказчыкам цікаўнасці да гістарычнага

[1] Беластокскі тэхналагічны ўніверсітэт, Беларуская Акадэмія, доктар гістарычных навук, прафесар, Беласток, Польшча.

мінулага, імкненне знайсці крыніцы паходжання народа, асэнсаваць яго гістарычны шлях.

**Abstract** The article analyzes the practice of using large units of chronology - era, century and year in the daily life of various kingdoms of Belarusian society at the end of the18th -first half of the 19th centuries. As a result of the analysis, the differentiation of the use of these units is revealed: educated minorities begin to use the terms “era” and “century” to reflect on the past; the concept of “epoch” comes into use, meaning a delineated period in the history of society and emphasizing its distinctive features. The peasantry at this time still lives according to the time paradigm of traditional culture, measuring time for years without using longer and outlined segments on the time tape. The analysis of the use of large units of chronology can be a good indicator for identifying the processes of modernization of society, as well as the degree of formation of modern nations: the entry into everyday circulation of large units of chronology is an indicator of interest about the historical past, the desire to find the sources of the origin of the people, to comprehend its historical path.

У гісторыі беларускіх земляў канец XVIII-першая палова XIX ст. былі пазначаны шэрагам складаных эканамічных, сацыяльных, палітычных і культурных працэсаў, якія кардынальным чынам паўплывалі на стан грамадства, яго паўсядзённае жыццё. Фармаванне і развіццё індустрыяльнай вытворчасці, пачаткі якой былі закладзеныя ў першай чвэрці стагоддзя з’яўленнем першых фабрык, прывяло ўрэшце да ўзнікнення новых сацыяльных варстваў, паступоваму разбурэнню натуральнай гаспадаркі, росту гарадоў. Падзелы Рэчы Паспалітай, у выніку якіх беларускія землі былі анексаваны Расійскай імперыяй, выклікалі бурлівыя наступствы ў палітычным жыцці. Паўстанні 1794 і 1830 гадоў, рэпрэсіі царскіх уладаў пасля іх утаймавання прывялі да змяншэння колькасці і ролі ў жыцці грамадства прывілеяванага мясцовага насельніцтва; палітыка ўніфікацыі далучаных да Імперыі тэрыторый, якая, у тым ліку, уключала русіфікацыю, нівеліроўку адрозненняў у адміністратыўным уладкаванні, заканадаўстве, спосабах і інструментах кіравання і інш., мела наступствамі змены не толькі ў сацыяльным і культурным жыцці, але таксама ў ментальнасці, самасвядомасці жыхароў беларускіх земляў. Апошняе падмацоўвалася таксама пераўладкаваннем канфесійнай сітуацыі ў краі пасля скасавання ўніяцкай царквы і скарачэння ўплыву каталіцтва на кошт праваслаўя, якое цяпер стала дзяржаўнай рэлігіяй. Усе гэтыя працэсы і з’явы паўплывалі на стаўленне да часу, як адной з каардынатаў паўсядзённага жыцця, адбіліся на спосабах і адзінках яго вымярэння, выкарыстанні гэтых адзінак у рэгуляванні штодзённай дзейнасці.

У XIX стагоддзі яшчэ выразным заставалася адрозненне ў стаўленні да часу, яго каштоўнасці і адчуванні паміж жыхарамі вёскі і горада, такія адрозненні былі відавочнымі і ў прадстаўнікоў розных сацыяльных варстваў. Гэтая сітуацыя была звязаная са ступенню ўключанасці ў сацыяльныя стасункі, узроўнем адукаванасці, са спецыфікай прававога становішча і роллю ў эканоміцы грамадства. Не гледзячы на працэсы мадэрнізацыі, якія асабліва прыспешвалі напярэдадні скасавання прыгону, розніцца ролі часу ў штодзённым жыцці і ў яго ўспрыманні ў розных сацыяльных варстваў грамадства заставалася відавочнай.

Кожная з адзінак вымярэння часу – эра, год, сезон, месяц, дзень, гадзіна і іншыя мелі адметную розніцу ў дакладнасці, частаце ўжывання ў залежнасці ад сферы прымянення ці мясцовай традыцыі, ад сацыяльнага статуса асобы і асяроддзя, дзе іх ужывалі. Спецыфіку стасунку да часу, як адной з каардынат жыцця, і спосабах яго вымярэння ў розных варстваў грамадства можна прасачыць на прыкдадзе ўжывання буйных адзінак летазлічэння – эры, стагоддзя і года.

***Эра*** Пачатковы пункт адліку часу ў канцы XVIII – першай палове XIX ст. быў заснаваны на эры Дыянісія. Іншыя эры, найперш, эра ад Стварэння Свету, у паўсядзённым жыцці не выкарыстоўваліся, за выключэннем друкаваных календароў, дзе меліся згадкі пра іх. Апрача храналагічнай эры у паўсядзённасці кропкай адліку маглі быць важныя гістарычныя падзеі, якія адбіліся ў памяці сучаснікаў.

У сялянскім жыцці эра, як адзінка летазлічэння не мела важнага значэння ў той час. Гэтая адзінка замянялася суб'ектыўнай перыядызацыяй, лічэнне было дыскрэтным і вялося з дапамогай пазначэння знакавых для асобы, сям'і ці вёскі падзей. Характэрным прыкладам такога падыходу да адліку часу можа служыць храналогія падзей у вершы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча "Халімон на каранацыі", дзе пачатак апавядання аб паездцы гарадоцкага старшыні Забалотнага ў сталіцу, пазначаны не годам ці імем цара, а заканчэннем вайны з французамі. Пры гэтым дзве падзеі, якія насамрэч аддзяляла дзесяцігоддзе, пастаўленыя побач[1]. Вайна 1812 г. была часовай вехай, якая дастаткова часта абіралася ў першай палове XIX ст. у якасці пункта адліку, ад якога вядзецца аповяд, або як рубеж, каторы падзяляе дзве розныя эпохі.  Эва Феліньска пазначае гэтую тэндэнцыю наступным чынам:" Komu nie wraził się w pamięci rok 1812? Kto w nim żył,

[1] Дунін-Марцінкевіч В. *Халімон на каранацыі*. [у:] *Творы*. Мінск, Мастацкая літаратура, 1984, с.360-378.

ten nazbierał pamiątek na całe życie”.[1] Гэтак сама піша пра дату Габрыеля Пузына:” Długo, bardzo długo wspominano rok 1812-ty. On był treścią rozmów i tłem życia każdej rodziny.” [2]Паказальна, што ў мемуарах жыхароў беларускіх земляў першых дзесяцігоддзяў XIX ст. падзелы Рэчы Паспалітай не адзначаны такой выразнай роллю часовай вехі, сваеасаблівай мяжы, ад якой вядзецца адлік, ці якая была лёсаноснай, змяняючы акаляючае мемуарыста асяроддзе. Да прыкладу, у запісках ігумена Арэста, які фіксаваў даты нават такіх падзей, як кража маёмасці бурмістра, ці прызначэнне мясцовага суфрагана, згадка аб далучэнні Магілёва да Расійскай імперыі не пазначана не толькі месяцам і днём, але і годам (вайну 1812 г. ігумен апісвае дэталёва, з пазначэннем не толькі месяцаў, але і дзён асобных здарэнняў).[3] Не пазначае гэтую падзею, як знакавую, і мемуарыст з іншага сацыяльнага і палітычнага асяроддзя - Восіп Пшацлаўскі, аддаючы перавагу ў якасці пачатковай даты апавядання аб сваім жыцці і жыцці сваёй сям’і 1811 год, пазначаны набліжэннем вайны.[4] З гэтай жа даты пачынае свае мемуары Габрыеля Пузыня, адзначаючы, што 1812 г. не так моцна адбіўся на жыцці яе сям’і, як на іншых вядомых ёй сем’ях. [5]Можна меркаваць, што канкрэтныя даты падзелаў Рэчы Паспалітай не сталі такой выразнай вехай у паўсядзённым вымярэнні часу па некалькіх прычынах. Найперш, падзелы былі расцягнуты па часе і адбываліся на працягу чвэрці стагоддзя, што рабіла цяжкім вызначэнне адзінага пункту адліку. Па другое, у перыяд падзелаў адбыліся іншыя вельмі значныя для калектыўнай памяці падзеі, найперш, паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, якое закранула штодзённае жыццё прадстаўнікоў розных варстваў грамадства, было пазначана драматычнымі, запамінальнымі здарэннямі. І ўрэшце, штодзённае жыццё жыхароў анэксаваных тэрыторый пасля падзелаў не змянілася кардынальна, новыя ўлады ў першыя дзесяцігоддзі не прадпрымалі рашучых мер па пераўладкаванню далучаных земляў, было пакінута заканадаўства і судовая сістэма, права ўласнасці, прыгон, не праводзілася рашучая русіфікацыя справаводства ці адукацыі. Да сярэдзіны 20-х гадоў XIX ст гэтыя дзеянні адбываліся паступова і спарадычна. Згадка

---

[1] Felińska E. *Pamiętniki z życia Ewy Felińskiej*, T. 1, seria 2: Wilno 1858, s.28

[2] Puzynina G. *W Wilnie i w dworach litewskich : pamiętnik z lat 1815-1843,* Wilno, druk Józefa Zawadzkiego, 1928, s. 22.

[3] *Записки игумена Ореста. Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-западной Руси*. Т. 2, Вильно, 1867, с. LXX.

[4] Пшацлаўскі В. *Калейдаскоп успамінаў.* Т.1. Мінск, Лімарыус, 2012, с.28-29.

[5] Puzynina G. W Wilnie i w dworach litewskich, s.22.

падзелаў, калі і ўжывалася, вельмі рэдка мела канкрэтную дату, выконвала функцыю не пункта адліку, а рубяжа, які падзяляе розныя перыяды гісторыі грамадства. Дакладную дату першага падзелу менавита як цезуры, а не як пачатковага пункту адліку ў сваіх запісках згадвае каталіцкі біскуп Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч. У прыватнасці, ён, пераказваючы сваю размову з папскім нунцыям у 1797 г., піша:"После отделения Белоруссии в 1772 г. я получил право продолжать в этом отношении прежнюю практику"[1] . Для Богуша-Сестренцевича першы падзел Рэчы Паспалітай быў сапраўды важнай вехай у ягонай асабістай кар'еры, у ягоным жыцці, мабыць таму, у адрозненні ад ігумена Арэста, ён зафіксаваў дакладную дату падзеі. Але часцей нумары года падзелаў не пазначаліся, і чым далей ад гэтых падзей, тым менш дакладным рабілася пазначэнне і выглядала так, як гэта зроблена ў лісце Гродзенскага магістрата ў 1838 г:"По присоединении Литовской провинции к России начались употреблять весы и меры Российской системы, а в особенности при обязательстве с казной"[2] .

Паўстанне 1830-1831 гг. таксама стала адной з цэзур, ад якой вымяралі час. Яе выкарыстанне пачынаецца ў 1840-я гады і доўжыцца на працягу ўсяго XIX стагоддзя. Пры тым характар і нагода ўжывання гэтай падзеі, як часовай вехі, абумоўлены былі шэрагам абставін, а менавіта, да якога палітычнага лагеру належала асоба - да тых, хто сімпатызаваў паўстанцам ці ўдзельнічаў у паўстанні, ці да праўладных колаў і царскай адміністрацыі, да ворагаў паўстання і вызвольнага руху. Так, да прыкладу, успаміны Ф.Я. Міркавіча аб яго генерал-губернатарстве ў Вільне (1840-1850 гг.) пачынаюцца словамі "После подавления польского мятежа 1831 года"[3], "мяцежом" таксама называе паўстанне Восіп Пшацлаўскі пры пазначэнні яго як пункту адліку ці часу падзей. [4]У стасунку да мемуараў ужыванне ці пазначэнне гэтай часовай вехі было абумоўлена таксама месцам і часам іх публікацыі. Цэнзура ў Расійскай імперыі не прапусціла б ухвальнае стаўленне да гэтай даты, ці спецыяльнае яе пазначэнне. Паўстанне 1830-1831 гг. стала важнай жыццёвай і часавай вехай ў жыцці

[1]*Дневник Сестренцевича, первого митрополита всех римско-католических церквей в России.* Ч.1, Петербург, 1913, с.91.

[2]Нацыянальны гістарычны архіў Беларусіўу Гродна, ф.1, воп. 4, спр. 656, арк.11.

[3] *Федор Яковлевич. Миркович 1789-1866. Его жизнеописание, составленное по собственным его запискам, воспоминаниям близких людей и подлинным документам* [сост.: Александр Миркович, Михаил Миркович]. С.-Петербург : Военная тип., 1889, с.251

[4] Пшацлаўскі В. *Калейдаскоп успамінаў.* Т.1, с.137, 185.

тых, хто прымаў непасрэдны ўдзел у паўстанні, быў пакараны катаргай ці высылкай, або эміграваў пасля паўстання за мяжу. Паўстанцкія мемуары складаюць ладны кавалак мемуарыстыкі XIX ст., значная большасць іх пачатковай датай мае ўласна 1831 год.

Даты ўваходжання на трон расійскіх манархаў не з’яўляліся для жыхароў беларускіх земляў важнай часовай вехай, ва ўсялякім выпадку, такіх прыкладаў у тагачасных успамінах намі не знойдзена. Падобнае датаванне магло ўжывацца ў якасці пазначэння нейкага перыяда, часавага адрэзку :”в первое десятилетие царствования императора Александра I”[1]. Даты ўвашэсця на трон дзеючага расійскага імператара заўсёды даваліся ў якасці адметных “эпох” у друкаваных календарах.

Друкаваныя каляндары, папулярныя ў XIX ст. у адукаванай частцы насельніцтва, мелі спецыяльны раздзел, прысвечаны важным датам, вехам у жыцці грамадства, разглядаючы іх як своеасаблівыя эры. Так, у адрас-календары Віленскага ўніверсітэта на 1807 г. апрача эры ад Стварэння Свету і эры “ад патопу” паказана колькасць гадоў ад хрышчэння Літвы і Русі, заснавання Вільні. Адрас-каляндар быў выданнем афіцыйным, у ім паказваліся ўсе адміністратыўныя і судовыя ўстановы ў Імперыі з прозвішчамі найбольш важных чыноўнікаў, ён выдаваўся паводле расійскіх законаў і правілаў. Павел I спецыяльным указам падцвердзіў дадзеную яшчэ Петром I манаполію расійскай Акадэміі навук на выданне календароў, пакінуўшы аднак па-за гэтай манаполіяй календары, якія выдавалі полацкія іезуіты і Галоўная Літоўская школа ў Вільні. Разам з тым, адрас-календары, дзе апрача календарных звестак друкаваліся афіцыйныя дадзеныя аб чыноўніках, заставаліся ў веданні Акадэміі навук. Інфармацыя для іх збіралася праз органы ўлады, найперш, губернатараў; змест, у тым ліку, памятныя даты і “эпохі” акрэслівала Акадэмія навук, а зацвярджаў пасля прагляду цар. [2] Менавіта таму, на нашую думку, сярод падзей, якія мелі характар вехі, пункта адліку ў выдадзеным у Ю. Завадскага календары прысутнічалі ўзнікненне рускай цэнтралізаванай дзяржавы (372 гады на 1807 г.), заснаванне Пецярбурга і Маскоўскага ўніверсітэта і інш.[3] Паказальна, што неафіцыйныя календары, якія друкаваліся на былой тэрыторыі Рэчы Паспалітай, у тым на расійскай частцы забраных яе земляў,

[1] Тамсама, с. 97.

[2] *Полное Собрание законов Российской Империи*, СПб, 1830, т. XXV, №19681, с. 427.

[3] *Kalendarz Adresowy dla Wydziału Uniwersytetu Imperatorskiego Wileńskiego na rok 1807 u osmiu gubernii Wydział Imperatorskiego Wilenskiego Uniwersytetu Składających*. Wilno, Zawadski, 1806, s.1.

уключалі ў лік гэты важных, знакавых дат падзеі з жыцця Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. У Астранамічна-гаспадарчым календары на 1828 г., выдадзеным у Варшаве, побач з эрай ад СС (5823 г. ад СС) пададзены 1450 г. ад стварэння Княства Літоўскага, 1273 г. ад стварэння Каралеўства Польскага[1]; у календары, выдадзеным у Любліне ў гэты ж год, у якасці знакавых "эпох" названыя Бітва пад Грунвальдам, вызваленне Вітаўтам Палесся ад татараў, Крэўская ўнія[2]; у варшаўскім календары за 1834 г. , ужо пасля паўстання, дадзена толькі дата заснавання Варшавы[3]. У 1820-1840-я гады масава друкавала календары выдавецкая фірма Нахімовічаў (сын Зымеля Нахімовіча звычайна карыстаўся прозвішчам Зымеліовіч ці Зымелёвіч[4]) і Манеса Рома.[5] У гэтых календарах частка, дзе

[1] *Kalendarz Astronomiczno-Gospodarski, Polski i Ruski na Rok Pański 1828, Który Jest Rokiem Przestępnym, Mającym Dni 366, z opisem Dni Gałowych w Rosyji i Królewstwe Polskem, Swiąt Zydowskich, Poczt i innych wiadomości.* Warszawa, J. Pukszta, 1827, s.2.

[2] *Kalendarz Astronomiczno-Gospodarski, Polski i Ruski na Rok Pański 1828, Który Jest Rokiem Przestępnym, Mającym Dni 366 : zawierający w sobie bieg planet, odmiany powietrza, zaćmienia, technologiczne, rolnicze i wiele potrzebnych wiadomości*, Lublin, Nakł. J. K. Pruski, 1828, s.2.

[3] *Kalendarz Astronomiczno-Gospodarski Polski i Ruski na Rok Pański 1834. Który jest rokiem zwyczajnym maiącym dni 365.* Warszawa, J. Gautier, 1833, s.2.

[4] Аб выдавецкай дынастыі Нахімовічаў гл. нашую працу: Сяльверстава С.Я.*Гарадзенскі друкар Зымель Нахімовіч*.[у:] *Форум*, 1996 , № 4, с.38-40.

[5] *Kalendarz Gospodarski na Rok Pański 1827 : zawierający w sobie dni 365, oraz święta rzymskie i ruskie, z oznaczeniem dni galowych; wschód i zachód słońca; odmiany xiężyca, i inne ciekawe i pożyteczne wiadomości gospodarskie i astronomiczne; na końcu przydane są święta i posty Starozakonnych*. W Wilnie : w Druk. Zymela, [1826]; *Kalendarz Gospodarski na rok pański zwyczajny 1839: zawierający w sobie dni 365 oraz święta rzymskie i ruskie z oznaczeniem dni galowych: epochy znakomitsze: odmiany xiężyca; wiadomości i doświadczenia gospodarskie i astronomiczne; ciekawe rozmaitośći i anekdoty: przepowiednie zmiany powietrza: tabeli: gospodarską i procentową; pryncypalnieysze jarmarki oraz święta i posty Staro-Zakonnych,* W Wilnie: w Druk. Zymela Typografa i Manesa Romma, [1838]; *Kalendarz Gospodarski na rok pański przestępny 1840: zawierający w sobie dni 366 oraz Święta Rzymskie i Ruskie z oznaczeniem dni galowych; epochy znakomitsze i sentencyje; odmiany xiężyca; sposoby ratowania bydła i o owocach; wiadomości i doświadczenia gospodarskie i astronomiczne; sposoby kuchenne i lekarskie; anekdoty, wiersze i statystyczne wiadomości; przepowiadanie pogody z pająków; odchod poczt w Wilnie i Grodnie; pryncypalniejsze jarmarki oraz święta i posty Staro-Zakonnych,* Wilnia: w Druk. Zymela Typografa i Manesa Romma; [1839]; *Kalendarz Gospodarski na rok pański zwyczajny 1841: zawierający w sobie dni 365: epochy znakomitsze; odmiany xiężyca; tabelę wschodu i zachodu słońca; rzecz o gospodarstwie w Litwie; o chorobie jagniąt; wiadomości i doświadczenia gospodarskie i astronomiczne; sposoby kuchenne i lekarskie; anekdoty; wiersze i ciekawe rozmaitości; dokończenie o pająkach i osobliwości; odchod i przychod poczt w Wilnie i*

былі пазначаны эры і знаменальныя даты, займала амаль дзьве старонкі і ўключала розныя падзеі, у тым ліку, напрыклад, знішчэнне яцьвягаў, ці прыняцце праваслаўя князем Даўмонтам, з дадаткам спасылак на працы Тэадора Нарбута.

***Стагоддзе*** Лічэнне з дапамогай стагоддзя, ці пазначэнне яго ў штодзённым жыцці ці ў мемуарных запісаў не было распаўсюджанай з'явай. Да гэтай адзінкі часу найчасцей звярталіся ў апісаннях падарожжа, наведвання гістарычных мясцін, помнікаў даўніны, ці пры апісанні гістарычных падзей, а не для пазначэння ўласна цяперашняга суб'ектыўнага часу. Так, звяртаецца да пазначэння стагоддзя падзеі ці пабудовы помніка В. Сыракомля[1], актыўна выкарыстоўвае дадзеную адзінку часу Павал Шпілеўск пры апісанні падарожжа па Палессю і іншым беларускім землям, распавядаючы гісторыю Нясвіжа, Мінска, Барысава і іншых беларускіх гарадоў, а таксама помнікі даўніны[2].

Стагоддзе, як адзінка лічэння часу, на нашую думку, можа служыць добрым ідэнтыфікатарам успрыняцця чалавекам мінуўшчыны, ступені лакалізацыі сябе і свайго сённяшняга існавання на стужцы часу, паказчыкам зацікаўленасці чалавека і грамадства ў пазнанні свайго мінулага.  Да другой паловы XVIII ст., да эпохі Асветніцтва гэтая адзінка лічэння часу вельмі рэдка сустракаецца ў крыніцах, ёй не карыстаюцца ні храністы, ні праўнікі, ні ўраднікі. Стагоддзе па сваім змесце было вельмі недакладным часовым адрэзкам з пункту погляду выкарыстання яго для справаводства, або ў юрыдычнай практыцы. Але яно было зручнай адзінкай для асэнсавання гістарычнага мінулага, станавілася адным з інструментаў і элементаў хранатопа, які выпрацоўваўся ў першых гістарыяграфічных даследаваннях. Стагоддзе было дастаткова доўгім адрэзкам, які дазваляў убачыць тыпалагічныя рысы акрэсленага перыяда ў гісторыі краю, заўважыць змены, якія перажывае соцыюм. З гэтага пункту погляду цікавым і характэрным  уяўляецца выкарыстанне лічэння стагоддзямі ў нататцы з абгрунтаваннем неабходнасці аднаўлення Вялікага княства Літоўскага пад эгідай Расіі, напісанай напярэдадні вайны 1812 г., якая

*Grodnie; pryncypalnieysze jarmarki oraz święta i posty Staro-Zakonnych*. W Wilnie: w Druk. Zymela Typografa i Manesa Romma; [1840]. і інш.

[1] Сыракомля Ул. *Дарожны дзённік 1856 года*. *Выбраныя творы*: Цвірка Кастусь - укладанне, прадмова, каментары. Мінск, Беларускі Кнігазбор, 2010 , с.292, 295, 297, 301 і інш.

[2] Шпилевский П. М. *Путешествие по Полесью и Белорусскому краю*, Минск, Полымя, 1993, с.67-71, 76-77, 105,134 і інш.

ўтрымліваецца ў паперах Міхала Агінскага. Аўтар, робячы агляд гісторыі Вялікага княства, паказвае тую ці іншую з'яву гэтай гісторыі з пазначэннем часовага адрэзку, калі яна адбываецца, і робіць гэта з дапамогай стагоддзя, не пазначаючы, аднак, яго нумар:" два столетия" "шесть столетий" і г.д.[1] Папулярнасць гэтай адзінкі расла паступова, адначасова з назапашваннем гістарычных ведаў і іх распаўсюджваннем, але ўвесь час яна была непарыўна звязаная з гісторыяй, у тым ліку, гісторыяй мастацтва ці літаратуры, а не з вымярэннем паўсядзённага жыцця.

Папулярнай адзінкай вымярэння часу ў першай палове стагоддзя стала эпоха. Гэты тэрмін меў разнастайную семантыку і часовыя межы. Эпохай маглі называць час вайны 1812 г. , як гэта зрабіў магілёўскі генерал-губернатар Георгі Бажэнаў у лісце да А.І Міхайлоўскага-Данілеўскага ў 1836 г.[2], або другую палову XVIII ст., як гэта ў мемуарах рабіла Ева Феліньска[3], або нават увесь час перад падзеламі Рэчы Паспалітай : "wizerunki należące do epoki, w której Naród nasz był jeszcze niepodległym"[4]. Эпоху маглі ўжываць таксама як сынонім тэрміну "эра", што было звычайнай справай у друкаваных календарах. Неакрэсленасць памеру гэтай адзінкі рабіла яе не столькі часткай сістэмы летазлічэння, колькі элементам суб'ектыўнай рэфлексіі над часам, дапамагала выбудаваць уяўленне аб знакавых падзеях і перыядах у гісторыі грамадства або канкрэтнага чалавека, іх паслядоўнасці. Тэрмін "эпоха", таксама, як і "век" быў праяўленнем пачаткаў гістарычнага мыслення, рэфлексіі над мінулым, ён быў той адзінкай часу, з дапамогай якіх асэнсоўваліся гістарычныя падзеі, працэсы і з'явы, рабілася перыядызацыя гісторыі. Так, у кнізе па гісторыі Літвы і Польшчы Томаша Станкара, прызначанай для шырокага кола чытачоў, тэрмін "эпоха" выкарыстаны наступным чынам: "Dzieje narodu litewskiego dzielić się daje na pięć epok: Pierwsza wieków pięć obejmująca wystawia Litwą w stanie gminowładstwa. W epoce drugiej, od r. 500-970 przez lat 470 Litwa jest rzecząpospolitą teokratyczną. W epoce trzeciej, od r. 970-1230, przez lat 260 podzieloną zostaje na małe udzielne księstwa. W czwartej epoce od r.1230-1386, przez lat 156, jest jednym wielkim księstwem, z małych

[1] Российский государственный архив древних актов, ф12, д.358, лл. 1-18.
[2] *Акты, документы и материалы по политической и бытовой истории 1812 г.*, т. 3, Петербург, 1912, с.23.
[3] Felińska E. *Pamiętniki,* T. 1, s. 370.
[4] *Przedmowa.*[w:] *Pamiętniki polskie*: Tom Piérwszy, Zeszyt Piérwszy, Paryż, 1844, s.4.

książencych udziałów stworzona, w epoce piątej , od r. 1386-1794, przez lat 408, połączona jest z krąlewstwem polskim.”[1]

У сялянскім асяроддзі тэрміны “век” ці “эпоха” не ўжываліся, яны былі непатрэбныя ў практыцы часазлічэння. Лакалізацыя сябе ў часе, уяўленне аб мінулым і сваёй сувязі з ім, аб будучыні сваёй асабістай і грамадства ў тагачаснай сялянскай свядомасці былі заснаваныя на вуснай гісторыі, паданнях і казках, на біблейскіх сюжэтах, якія перапрацоўваліся ў адпаведнасці з сялянскім разуменнем сусвету і жыццёвым вопытам. Значную ролю ў гэтым адыгрывала сістэма перадачы інфармацыі паміж пакаленнямі, у выніку якой непазбежна ўзнікала інтэрферэнцыя некалькіх крыніц інфармацыі, успамінаў і жыццёвага досведу. “Зірніце, да прыкладу, на нашы вёскі. – Пісаў Марк Блок. - Умовы працы прымушаюць бацьку і маці амаль увесь дзень знаходзіцца ўдалечыні ад дома, і дзеці выхоўваюцца ў асноўным дзядулямі і бабулямі. Такім чынам, пры кожным новым этапе фарміравання свядомасці робіцца крок назад - у абыход пакалення, якое з'яўляецца галоўным носьбітам змяненняў, розумы найбольш падатныя аб'ядноўваюцца з найбольш закасцянелымі. Адсюль ідзе, несумненна, традыцыяналізм, так уласцівы многім сялянскім грамадствам”.[2] У сялянскай свядомасці ў той час гістарычная памяць з канкрэтнымі фактамі, імёнамі, падзеямі сягала не далей, чым на два-тры пакаленні, больш аддаленыя падзеі ўжо не мелі канкрэтнай лакалізацыі ў часе, набывалі міфалагізаваны характар.

***Год*** Год быў адной з найбольш часта ўжываных адзінак летазлічэння, яго выкарыстоўвалі не толькі для пазначэння канкрэтнай даты, але і для акрэслення канкрэтнага перыяда, працягласці абавязкаў, функцый, стасункаў і г.д. Год меў рознае значэнне і рознае вымярэнне, ён не абавязкова складаўся з 365-366 каляндарных дзён і 12 месяцаў, не абавязковым быў таксама студзеньскі стыль – усё залежала ад сферы, дзе бытавала гэтая адзінка лічэння. Па-рознаму год вымяраўся і ў залежнасці ад сацыяльнага статусу асобы.

Сялянскі год меў у першую палову XIX ст. яшчэ выразныя рысы папярэдніх эпох, на ім адбівалася наяўнасць натуральнай гаспадаркі і прыгоннае становішча селяніна. У першыя дзесяцігоддзі XIX ст.

[1] Stankar T. *Chronologia litewska i polska od najpierwszych początków państw tych do ostatnich czasów politycznego ich bytu, 1794 r. doprowadzona.* Wilno, Zawadski, 1854, s. 2-3.
[2] Блок М. *Апология истории, или Ремесло историка / Пер. с фр.* , Таллин, Ээсти раамат, 1983, с. 45.

успрыняцце часу ў сялянскай свядомасці было заснавана на рытме сельскагаспадарчых работ. Яго вымярэнне грунтавалася на прыродных з’явах, што ўплывала на сістэму адзінак, з дапамогай якіх размяркоўвалася і ўпарадкавалася штодзённае жыццё. Другой важнай для селяніна сістэмай вымярэння часу быў царкоўны каляндар, цесна звязаны ў яго ўспрыманні з цыклам палявых і іншых работ у сялянскай гаспадарцы.

Крыніцамі, якія дазваляюць прааналізаваць і паказаць вымярэнне і пазначэнне часу селянінам, з’яўляюцца, найперш, фальклорныя матэрыялы. Большасць з іх запісана і апублікавана ў другой палове XIX ст., але відавочна, што ствараліся і бытавалі яны значна раней, што дазваляе ўжываць рэтраспектыўны метад рэканструкцыі. Пэўныя звесткі ўтрымліваюць інвентары маёнткаў, якія дзейнічалі на беларускіх землях да сярэдзіны XIX ст. У іх вызначаліся тэрміны акрэсленых сялянскіх работ, выплаты грашовых павіннасцяў і інш. Значна меньш інфармацыі даюць дакументы асабістага паходжання – сяляне амаль не пакінулі падобных крыніц, а мемуарысты з іншых саслоўяў звычайна мала цікавіліся паўсядзённым жыццём селяніна. Акрэсленую вартасць у дадзеным аспекце маюць нататкі падарожнікаў, урадавых чыноўнікаў, а таксама справы, якія вяліся ў судах, канцылярыях, управах і іншых органах адміністрацыі па пытаннях, звязаных з жыццём вёскі.

Год у сялянскім жыцці не абавязкова меў той самы пачатак, што і каляндарны, адлік гадамі мог весціся ад даты заканчэння гаспадарчага года паводле інвентара, ад вызначанага ў ім дня разліку селяніна з маёнткам. Пры тым такі дзень пазначаўся з дапамогай згадкі рэлігійнага свята. Уяўленне аб падобнай сістэме лічэння часу дае, да прыкладу, інвентар Якунскага староства Ашмянскага павету, які быў складзены ў 1789 годзе. У ім, у прыватнасці, знаходзім наступны запіс:” Powinności włoscian. Każdy gospodarz z chaty w całym roku powinien odbywać pańszczyzny z czym dwór każe męskiey dni trzy, a kobiecej dni trzy, zaczowszy od świętego Jakuba, aż do świętego Michała każdy włościanin całą siemią swoją ... równo ze schodem słońca do dworu przy udysponowaney robocie stanąć będzie powinien y takowa powinność raz na tydzień po wyszłey sześciodniowey pańszczyznie odbywana bydz będzie powinna...”[1] У гэтым запісу, на наш погляд, адбілася вельмі характэрная рыса сялянскага лічэння часу – ужыванне нерухомых хрысціянскіх святаў для акрэслення даты падзеі. Поліканфесійнасць сялянскага асяроддзя стварыла сітуацыю, калі для вызначэння канкрэтнага

[1] *Инвентарь Якунского староства Ошмянского повета.*[в:] *Акты Виленской археографической комиссии (АВАК)*, т. 35, Санкт-Петербург, 1910, с. 510.

дня маглі ўжывацца як праваслаўна-уніяцкі, так і каталіцкі літургічныя календары, пры тым часта не згадвалася, які менавіта ўжываецца каляндар ("польскі" ці "рускі"). Названыя ў якасці часовых межаў адпрацоўкі паньшчыны святы св. Якуба і св. Міхала мелі розныя даты ў каталіцкім і праваслаўным календарах: у першым з іх па грыгарыянскім календары св. Якуб ушаноўваецца 25 ліпеня, а св. Міхал (архангел) 29 верасня; у другім - 30 красавіка і 30 чэрвеня шануюць св. Якуба, а 8 лістапада – св Міхала па юльянскім календары. На нашую думку, інвентар Якунскага староства ў дадзеным выпадку выкарыстоўваў менавіта праваслаўна-уніяцкі літургічны каляндар, і час адпрацоўкі паншчыны быў прывязаны да сезону палявых работ – з сярэдзіны красавіка (на той час адпаведна 19 красавіка па грыгарыянскім календары) да канца кастрычніка (29 кастрычніка па грыгарыянскім календары на той час). Ужыванне тут менавіта праваслаўна-уніяцкага календара было абумоўлена, з вялікай доляй верагоднасці, уніяцкім ці праваслаўным вераспавяданнем большасці сялян староства, што падцвярджаецца імёнамі, згаданымі ў інвентары - Таццяна, Ілля, Іван, Кузьма і інш. Заўважым, што складальнікі інвентару - шляхцічы, ужываюць не нумары дзён, і не даты паводле каталіцкага літургічнага календару, а тое лічэнне часу, якое зразумела сялянам і выкарыстоўваецца імі. Такім чынам, толькі шэсць месяцаў пазначаліся ў дадзеным календары як сельскагаспадарчы год, астатняя палова календарнага года не згадвалася.

Цыклічнасць і аднастайнасць сялянскага жыцця не патрабавала дакладнага лічэння часу з дапамогай гадзін і, тым болей, мінут. Асноўнымі адзінкамі лічэння тут былі ў той час год (сельскагаспадарчы), сезон, час палявых работ (сяўба, жніво, пакос і г.д.), тыдзень, дзень (светлавы).

Вельмі падрабязную і маляўнічую карціну лічэння, успрыняцця і асэнсавання часу на вёсцы дае ў творы "Kęs chleba "("Акраец хлеба. Гавэнда з наднёманскіх палёў")[1] Уладзіслаў Сыракомля. У дадзенай гавэндзе прадстаўлены ў якасці галоўнага героя пажылы шляхціч-арандатар Лагода, які дбае аб дабрабыце сялян, знітаваны з штодзённасцю вёскі, адыгрывае ў ёй ролю, хутчэй, патрыярхальнага старэйшыны, чым ўладцы і начальніка. Увесь твор пранізаны згадкамі аб часе, аб яго цячэнні, у храналагічным парадку разгортваецца фабула гавэнды, пры тым гэты парадак заснаваны на элементах сялянскага летазлічэння.

Год у творы падзяляецца згодна з цыклам сельскагаспадарчых работ. Пачатак яму кладзе восеньская сяўба азімых. Восеньскі пачатак года

[1] Сыракомля Ул. *Акраец хлеба. Гавэнда з наднёманскіх палёў* [у:] *Выбраныя творы*, с. 120-148.

(вераснёўскі стыль) быў ужываны на беларускіх землях да канца XV ст., прыйшоўшы сюды разам з хрысціянствам і юльянскім календаром з Візантыі. Менавіта ў той час – у XIV- XV ст ст. пачало распаўсюджвацца трохполле, і новы пачатак года неблага паклаўся на цыкл сельскагаспадарчых работ, суіснуючы спачатку побач з сакавіцкім стылем, а затым выціснуўшы яго. Студзеньскі стыль, вядомы на беларускіх землях з XIII ст. не ўнёс якіх –небудзь значных змен у сельскагаспадарчы каляндарны цыкл.

Каляндарны год, згодна з існуючым народным календаром размяркоўваўся ад сяўбы да жніва, што адзначае Ул. Сыракомля:

*Але паміж хвіляй засевак і жніва*
*Яшчэ цэлы год і надзей, і трывогі.*

Паказальна, што ў гадавым цыкле, апісаным у вершы, зусім не адзначаецца студзеньскі новы год, ён не складаў у той час на вёсцы нейкага значнага рубяжа, вехі, ад яго не вёўся адлік.

Падобную карціну лічэння и размеркавання сялянскага часу паводле сельскагаспадарчых работ апісвае Павал Шпілеўскі ў "Падарожжы па Палессі і Беларускім краю". Паводле яго каляндар гаспадарчых работ, а з ім і новы гаспадарчы год у Мінскай губерні пачынаўся з вяснавой сяўбы і пасадкі агародаў, а заканчываўся зборам і мачэннем лёну і малацьбой сабранага збожжа. Пры тым кожная з культур мела свой канкрэтны тэрмін у сельскагаспадарчым цыкле, такім чынам адбывалася ўпарадкаванне і размеркаванне сельскагаспадарчага года, падзел яго на больш дробныя адзінкі лічэння. П.Шпілеўскі пры гэтым падае канкрэтныя даты севу ці збору некаторых культур з нумарамі дзён, агаворваючы, што праца можа пачацца на некалькі дзён раней ці пазднейу залежнасці ад надвор'я і часу змены сезона. У гэтым кантэксце цікавай уяўляецца дата 25 сакавіка, якую П.Шпілеўскі называе ў якасці пачатку севу. На гэты дзень прыпадае нерухомае свята Звяставання, якое ўласна і было ў сялян элементам сельскагаспадарчага календару. Менавіта Звеставаннем пазначаўся ў тэксце П Шпілеўскага пачатак збору мёду і рэвізія вулляў. [1]

Адчуванне змены ў цячэнні часу ў сялянскай свядомасці, найперш у стасунку да буйных адрэзкаў, такіх, як год ці сезон, грунтавалася на прыродных з'явах. Лічэнне часу вялося гаспадарчымі працамі, а не храналагічнымі адзінкамі. Характарызуючы падобнае ўяўленне часу, Эльжбета Тарковска адзначае:"Jest to poprostu powtarzającym się cyklem

[1] Шпилевский П. М. *Путешествие по Полесью и Белорусскому краю*, с. 120-121.

powracających pór, powracającego cyklu zmian w przyrodzie, powtarzanego trybu podejmowanych przez człowieka działań. Nie będzie to rok w naszym rozumieniu, bo nie będzie jedną z jednostek na ciągłej linii czasu, poprzedzoną nieskończoną ilością takich samych jednostek w przeszłości, poprzedzającą takie same jednostki w przyszłości. Ta jednostka czasu, a i sama kategoria czasu, nie ma jeszcze abstrakcyjnego charakteru”[1]. Можна сцвярджаць, што стасунак да часу, яго ўспрыманне, лічэнне, дапасаванне да яго рытму ў сялянскім асяроддзі ў той час мела рысы, характэрныя для “folk society” (па акрэсленні Георга Зімеля). У значнай ступені час не быў індывідуальнай каштоўнасцю, размяркоўваўся і ацэньваўся з пункту погляду патрэбаў грамады, якой магла быць вялікая сялянская сям’я, супольнасць вёскі, або парафіі. Спосабы выкарыстання часу, яго бюджэт, выбар заняткаў ў вольныя ад працы гадзіны, якіх было няшмат, акрэсліваліся ў значнай ступені не індывідуальным выбарам асобы, але традыцыяй, нормамі і стэрэатыпамі паводзін, якія існавалі ў дадзенай вясковай супольнасці. Гэтыя нормы і стэрэатыпы вызначалі часовыя вехі не толькі года, ці дня, але ўсяго жыцця вяскоўца ад нараджэння да смерці і нават пасля яе. Згодна гэтым нормам і стэрэатыпам акрэслівалася, калі дзеці павінны былі пачынаць працаваць у гаспадарцы, калі юнакі і дзяўчаты павінны былі браць шлюб, колькі часу павінна была цягнуцца жалоба па памерламу сужонку і калі прыстойна ўступаць у іншы шлюб, цераз колькі дзён трэба хаваць памерлага і ў якія дні яго памінаць. Парушэнне гэтых часовых нормаў прыводзіла да канфлікту з вясковай грамадой, да зніжэння сацыяльнага статусу ці ўвогуле да астракізму. Так, да прыкладу, як адзначае Ірына Раманенка, калі дзяўчына не брала шлюб да 24–25 гадоў, яе называлі «перастарак», «старая»[2], пазначаючы тым самым парушэнне адной з усталяваных часовых межаў у жыцці вясковай жанчыны.

Традыцыйны падыход да ўспрыняцця і лічэння часу ў вясковым асяроддзі з канца XVIII ст. пачаў пакрыху змяняцца з адкрыццём школ для сялянскіх дзяцей. Дзякуючы намаганням біскупа Масальскага, а таксама часткі асветленых магнатаў у першыя гады рэформы асветы, якая

[1] Tarkowska E. *Czas w społeczeństwie. Problemy ,tradycje, kierunki badań.* Wrocław Warszawa Kraków Gdańsk Łódź, Zakład narodowy imienia Ossolińskich, Wyd. PAN, 1987, s. 33.

[2] Романенко И.В. *Трансформация статуса белорусской сельской женщины в XX - начале XXI в.* НАН Беларуси, Центр исслед. белорус. культуры, яз. и лит., Фил. "Ин-т искусствоведения, этнографии и фольклора им. Кондрата Крапивы", Минск, Беларуская навука, 2015, с. 43.

здзяйснялася пад кіраўніцтвам Камісіі народнай адукацыі, на тэрыторыі ВКЛ працавалі больш за 300 прыходскіх школ, але з-за супрацўлення абскурантаў ў 1780-я гг. іх колькасць скарацілася амаль на сотню[1]. У першыя дзесяцігоддзі XIX ст. дзейнічалі прыходскія школы, школы, заснаваныя асветленымі магнатамі і памешчыкамі. Але вырашыць пытанне сялянскай непісьменнасці яны не маглі; сялянскі сусвет па-ранейшаму быў заснаваны на традыцыйнай культуры і на традыцыйнай сістэме лічэння часу.

Год, як адзінка вымярэння часу, у гарадскім асяроддзі, ва ўспрыняцці прадстаўнікоў несялянскіх варстваў насельніцтва на беларускіх землях у першай палове XIX ст. меў не толькі ўласцівае месца на стужцы часу, але рознае значэнне ў залежнасці ад сферы выкарыстання.

Адным з адметных перыядаў лічэння быў школьны год. Ён успрымаўся як сталая, вядомая здавён адзінка часу, якая мела акрэсленую працягласць – з верасня па чэрвень. Ва ўспамінах сучаснікі дастаткова часта нават не згадваюць, калі менавіта пачынаецца ці заканчваецца вучоба, разумеючы гэта, як усім вядомы і даўно замацаваны ў грамадстве перыяд. Так, Адам Красіньскі, які вельмі падрабязна апісвае парадак вучобы ў вучылішчы, дзе ён вучыўся, пра канец года згадвае мімаходзь:” po ukończeniu roku szkolnego w lipcu 1827 wyjechałem do Lubieszowa”[2]. Эва Феліньска ва ўспамінах адзначае, што летнія канікулы ў слуцкім вучылішчы, дзе вучыліся яе браты, пачыналіся пасля экзамену, што адбываўся ў дзень св. Пятра (12 ліпеня), праўда па якім календары гэта свята лічылася, мемуарыстка не згадвае.[3] Вераснёўскі пачатак школьнага года практыкаваўся ва ўсіх тыпах навучальных установаў – ад універсітэта да прыходскай школы. Пачатак і канец навучальнага года мелі акрэсленыя традыцыйныя рытуалы, якія надоўга адкладаліся ў памяці студэнтаў і вучняў.

Апрача школьнага года розныя памеры і часовыя межы мог мець фінансавы ці справаздачны год. Год, як адзінка вымярэння часу, быў надзвычай папулярны для акрэслення працягласці нейкіх дзеянняў, паўнамоцтваў, дамоўленасцяў. У дадзеным выпадку гэты тэрмін меў у нейкім сэнсе абстрактнае значэнне, бо не ўлічвалася колькасць дзён – такі год разумеўся як адрэзак часу працягласцю ў 12 месяцаў, не залежна ад

[1] Szybiak I. *Szkolnictwo Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Księstwie Litewskim*. Wrocław, 19 73, s.81-88.
[2] Krasiński A. S. *Wspomnienia biskupa Adama Stanisława Krasińskiego*, Kraków, 1900, s. 21.
[3] Felińska E. *Pamiętniki*, T. 2, s.60.

таго, ці гэтыя месяцы налічвалі 365 ці 366 дзён. Не важныя былі таксама ні сезонныя змены, ні астранамічныя дадзеныя. Гэтая адзінка ўжывалася як у сферы рэгулявання сацыяльных ці эканамічных стасункаў, так і для патрэб міжасабовых адносінаў. Так, гадамі вымяраліся пакаранні за палітычныя ці крымінальныя злачынствы, што было звычайнай практыкай на працягу стагоддзяў, пры тым пачатковы пункт адліку такога года пачынаўся з дня, пазначанага прысудам, ці дня канфірмацыі. Да прыкладу, асуджаны па выніках следства над філарэтамі і філаматамі на год зняволення ў крэпасці Тамаш Зан пачаў адбываць гэты тэрмін з часу ўхвалення прысуду следчай камісіі Александрам І 14 жніўня 1824 г.[1] – менавіта з гэтай даты пачаўся ягоны лік гадамі.

Дата, ад якой пачынаўся адлік года, як адзінкі лічэння часу, залежала ад канкрэтных абставін, магла вызначацца прыблізна. Цікавым з гэтага пункту погляду выдаецца прыклад адной з прававых нормаў, заканадаўча зацверджаных Мікалаем І 28 снежня 1832 г. і ўнесенай у Статут лютаранскай царквы: дзяўчына, якую спакусілі і кінулі, магла падаць скаргу на спакусніка, але толькі на працягу года ад моманту спакушэння.[2] Якім чынам пакрыўджанай дзяўчыне належала зафіксаваць і ўдакументаваць пачатак адліку гэтага года, ва ўказе не тлумачылася.

Недакладнасць акрэслення даты, ад якой трэба налічаць год, у тым ліку, і ў афіцыйных актах, часам прыводзіла да непаразуменняў. Так, у 1831 г. Мікалаем І быў ухвалены ўказ аб пакаранні чыноўнікаў, якія дапусцілі неахайнасць у службовых абавязках. Паводле ўказа чыноўніка, як на працягу года атрымаў тры строгіх вымовы, або шэсць звычайных, належала аддаваць пад суд. Ва ўказе не агаворвалася, ад якога менавіта дня трэба лічыць гэтыя вымовы – ад першай атрыманай, ці ад пачатку каляндарнага года. Недакладнасць пункта адліку выклікала хваляванне ў чыноўнікаў Мінскага губернскага праўлення, якія звярнуліся ў Сенат за тлумачэннем. У выніку спатрэбіўся яшчэ адзін царскі ўказ ад 12 кастрычніка 1832 года, у якім тлумачылася, што ў дадзеным выпадку год належыць адлічваць ад 1 студзеня, таму ўсе вымовы, якія былі атрыманыя перад гэтай датай, не бяруцца ў разлік.[3]

[1] Bieliński J. *Proces filaretów w Wilnie. : dokumenta urzędowe z "Teki" rektora Twardowskiego*. Kraków, 1889, s. 152.
[2] Полное собрание законов Российской империи (ПСЗРИ) Изд. второе, т. VII, Санкт-Петербург , 1833, №5870, с. 958.
[3] Там же, № 5670, с.705.

З далучэннем беларускіх земляў да Расійскай імперыі на іх быў распаўсюджаны парадак набыцця падвышэння сацыяльнага статусу праз выслугу гадоў на ваеннай, дзяржаўнай або прыдворнай службе, уведзены яшчэ "Табеллю аб рангах" Пятра I і неаднаразова з тых часоў дапоўнены і папраўлены. У Рэчы Паспалітай такая практыка – набыццё новых урадаў і званняў праз канкрэтную колькасць гадоў знаходжання на службе, не быў прыняты. Для мясцовай шляхты новыя чыны і званні, назвы якіх мелі ўжо сімвалічны характар, здаваліся дзіўнымі, як і сам парадак уздымання па службовай лесвіцы. Падобную сітуацыю ў сваіх мемуарах так апісвае Гаўрыла Дабрынін, які ў канцы XVIII ст. служыў у канцылярыі Беларускага намесніцтва: «Смешна было слухаць, - заўважае мемуарыст, - як многія з прызначаных, нязвыклыя да чыноў расійскіх, прыходзячы да намесніцтва ( г.зн. у канцылярыю - С.К-С.), пыталіся нас, служачых: «што такое «титулярный советник», што такое «надворный советник»? Я быў, - адзін кажа, - падстолі, другі - мастаўнічы, ...каморнік ржэчаскі, ...мечнік старадубаўскі, ...рэент ашмянскі і г.д.»... «За што ў вас вылічваюць з жалавання, калі ўзнагароджваюць чынамі?» ...а старшыня верхняй расправы Курч прапанаваў на разгадванне кожнаму, хто хацеў яго слухаць: «Гаворацъ, што я ў ранге падпалкоўніка. Дзе ж мой полк?».[1] З гэтага часу год, як адзінка лічэння, стаў для пэўнай часткі грамадства мерай поспеху, прыступкай для сацыяльнага авансу, дабрабыту, забяспечанай старасці. Паняцце "выслуга гадоў" увайшло ў карыстанне і захавалася да сёння.

Год, як пэўны адрэзак часу, ужываўся таксама ў якасці выпрабавання. Так, для атрымання пасвячэння ў манахі неабходна было, у залежнасці ад канфесіі, ці статута ордэна, калі гэта датычыла каталікоў ці ўніятаў, акрэсленую колькасць гадоў быць пры кляштары ў якасці паслушніка, неафіта. Адам Красінські так апісвае гэты выпрабавальны тэрмін:" Nowicyat, jest to zakonne seminaryum, służące za próbę powołania, i razem przygotowanie się do przyjęcia ślubów zakonnych. Miał on swoją regułę drukowaną i bardzo ścisłą. Trwał lat dwa." [2]Далучэнне да Расійскай імперыі распаўсюдзіла на беларускія землі практыку, якая была прынята ў імперыі: дзяржава пачала рэгламентаваць ўнутрыцаркоўнае жыццё, усталёўваць правілы і нормы дзейнасці святарства і яго адносін з паствай. Гэта датычыла таксама і часу служэння ці набыцця сану. Згодна з рэгламентам для каталіцкакага святарства, падпісаным Паўлам I 3 лістапада 1798 г.,

[1] Добрынин Г. *Истинное повествование или жизнь Гавриила Добрынина им самим написанная в Могилеве и в Витебске.1752-1823* , Спб., 1872, с.211.
[2] Krasiński A. S., *Wspomnienia*, s. 27.

былі, да прыкладу, вызначаны некаторыя нормы, што датычылі часу і не былі прадугледжаныя статутамі манаскіх ордэнаў ці іншымі дакументамі каталіцкай іерархіі: манаскі сан можна было надаваць навіцыятам толькі пасля сканчэння імі 22 гадоў, а месца суперыёра ці настаяцеля кляштара можна было займаць толькі тры гады.[1]

Выпрабаванне даўжынёй у год практыкавалася раз-пораз і для праверкі пачуццяў маладых, якія ці былі не ўпэўненыя у сваіх пачуццях, ці шлюб не вельмі ўхваляўся іх роднымі. Аб такой практыцы, у прыватнасці, згадвае Эва Феліньска.[2]

У мемуарах можна сустрэць згадку пра Юбілейны год. Традыцыя святкавання юбілейнага года ў каталіцкім касцёле пачынаецца з 1300 г. па ініцыятыве папы Баніфацыя VIII. Гэты год адзначаўся з рознай рэгулярнасцю, яго святкаванне анансавалася спецыяльнай папскай булай. Паводле традыцыі ў гэты год праводзіліся спецыяльныя набажэнствы, вернікі атрымлівалі магчымасць атрымаць адпусту грахоў у кафедральных касцёлах ці месцах паломніцтва, а таксама ў Рыме. У першай палове XIX ст. юбілейным быў прызначаны 1825 г. Адам Красіньскі ў сваіх успамінах юбілейным годам называе 1826 г., апісваючы выступленні місіянераў ў касцёлах Валыні.[3]

У друкаваных календарах абавязкова падкрэслівалася просты год, ці высакосны з пазначэннем колькасці дзён у дадзеным годзе. У дадзеным выпадку казусам можа быць 1800 г., які ў юльянскім календары быў высакосным, а ў грыгарыянскім – простым, таму пры выданні друкаванага календара трэба было даваць падвойнае азначэнне года.

У гэты час важнае месца ў сацыяльным статусе чалавека пачынае займаць год яго нараджэння, колькасць пражытых гадоў. Безумоўна, і ў папярэднія перыяды гэты паказчык адыгрываў важную ролю, асабліва ў справах маёмасных, ці справах крымінальнай адказнасці. Але ва ўмовах Расійскай імперыі, у грамадстве, дзе рэгламентаванню паступова падлягаюць усе сферы чалавечага жыцця, колькасць пражытых годоў становіцца адным з маркёраў, якія вызначаюць правы і абавязкі асобы. Эва Феліньска, у прыватнасці, адзначае, што падобнай узроставай вехай у жыцці шляхцянкі былі 13 гадоў – менавіта ад гэтага ўзросту заканчывалася дзяцінства і пачыналася юнацтва, змяняліся сукенкі, прычоскі і сам статус асобы ў сям'і. Яна ж згадвае, што яе брат ужо ў 20 гадоў удзельнічаў у

[1] *ПСЗРИ*, СПб, 1830, т. XXV, №18734, с.436.
[2] Felińska E. *Pamiętniki* T. 1, s.370.
[3] Krasiński A. S. *Wspomnienia,* s.69.

шляхецкіх выбарах і атрымаў пасаду ў шляхецкім самакіраванні, што для таго часу было рэдкасцю. [1] Узрост браўся пад увагу пры залічэнні ў навучальныя ўстановы ўсіх узроўняў, пры аддачы ў рэкруты ці добраахвотным залічэнні ў вайсковую службу, пры атрыманні пенсіі і інш. 31 кастрычніка 1832 г. быў выдадзены ўказ аб абавязковым пазначэнні ўзроста падсудных[2], што было звязана, найперш, з суднымі справамі паўстанцаў.

Выкарыстанне буйных адзінак летазлічэння ў паўсядзённым жыцці можа быць добрым ідэнтыфікатарам ступені развіцця працэсаў мадэрнізацыі грамадства. Традыцыйнае грамадства не патрабуе паўсядзённага выкарыстання такіх адзінак лічэння як стагоддзе, ці эра, паколькі гэтыя адзінкі лічэння часу звязаныя з рэфлексіяй над мінулым, акрэсліваюць месца падзей – мінулых і цяперашніх – на стужцы часу, якая цягнецца з мінулага ў будучыню. Для традыцыйнага грамадства час з’яўляецца неперарыўным колам, у якім цыклічна паўтараюцца з’явы і падзеі, а пачатак гэтых цыклаў мае міфалагічны пункт адліку. Летазлічэнне з’яўляецца дыскрэтным, выкарыстоўваючы лакальныя падзеі ў якасці цэзур для вызначэння няроўных адрэзкаў часу і фіксуючы час з дапамогай змены прыродных з’яў, якія маюць цыклічны характар. Уяўленне аб часе, як нейкай працягласці, як аб працэсе, які мае вектар, звязана з паняццем прагрэсу, з уяўленнем аб развіцці, змене, непаўторнасці. Такая парадыгма мыслення з’яўляецца ў часы Рэнесансу і сігналізуе аб пачатку разбурэння традыцыйнага грамадства.

У канцы XVIII- першай палове XIX ст. на землях Беларусі ўжыванне буйных адзінак летазлічэння ў паўсядзённым жыцці становіцца характэрным для прадстаўнікоў адукаваных варстваў грамадства. Сялянства па-ранейшаму не выкарыстоўвае іх, застаючыся яшчэ цалкам у межах традыцыйнай культуры з яе дыскрэтным і цыклічным разуменнем часу. Зварот да ўжывання такіх часовых адрэзкаў, як стагоддзе ці эпоха, наўпрост быў звязаны з цікаўнасцю да гістарычнага мінулага і адбываўся ў кантэксце расповядаў пра даўнія падзеі, гістарычныя помнікі ці выбітных гістарычных асобаў.

Найбольш запатрабаванай буйной адзінкай летазлічэння быў год, які меў розную працягласць у залежнасці ад сферы і акалічнасцяў ужывання. Вар’іраваўся таксама і пачатак адліку гэтага часовага адрэзка, не заўсёды супадаючы з пачаткам каляндарнага года. У адрозненні ад іншых

[1] Felińska E. *Pamiętniki* T. 2, s.89, 92.
[2] *ПСЗРИ*, изд 2, Т.7, СПб, 1832, №5708, с. 805.

буйных адзінак летазлічэння, якія выкарыстоўваліся ў літаратурных творах, публіцыстыцы, навуковых працах і крыніцах асабістага паходжання, год быў адной з галоўных адзінак летазлічэння ў афіцыйным справаводстве, заканадаўстве, юрыдычных актах і іншых дакументах, якія мелі распараджальны характар.

**Бібліяграфія**


Bieliński J. *Proces filaretów w Wilnie. : dokumenta urzędowe z "Teki" rektora Twardowskiego*. Kraków, 1889

Felińska E. *Pamiętniki z życia Ewy Felińskiej*, T. 1, seria 2: Wilno 1858

*Kalendarz Adresowy dla Wydziału Uniwersytetu Imperatorskiego Wileńskiego na rok 1807 u osmiu gubernii Wydział Imperatorskiego Wilenskiego Uniwersytetu Składających*. Wilno, Zawadski, 1806

*Kalendarz Astronomiczno-Gospodarski Polski i Ruski na Rok Pański 1834. Który jest rokiem zwyczajnym maiącym dni 365.* Warszawa, J. Gautier, 1833

*Kalendarz Astronomiczno-Gospodarski, Polski i Ruski na Rok Pański 1828, Który Jest Rokiem Przestępnym, Mającym Dni 366, z opisem Dni Gałowych w Rosyji i Królewstwe Polskem, Swiąt Zydowskich, Poczt i innych wiadomości.* Warszawa, J. Pukszta, 1827

*Kalendarz Astronomiczno-Gospodarski, Polski i Ruski na Rok Pański 1828, Który Jest Rokiem Przestępnym, Mającym Dni 366 : zawierający w sobie bieg planet, odmiany powietrza, zaćmienia, technologiczne, rolnicze i wiele potrzebnych wiadomości*, Lublin, Nakł. J. K. Pruski, 1828

*Kalendarz Gospodarski na Rok Pański 1827 : zawierający w sobie dni 365, oraz święta rzymskie i ruskie, z oznaczeniem dni galowych; wschód i zachód słońca; odmiany xiężyca, i inne ciekawe i pożyteczne wiadomości gospodarskie i astronomiczne; na końcu przydane są święta i posty Starozakonnych*. W Wilnie : w Druk. Zymela, [1826]

*Kalendarz Gospodarski na rok pański przestępny 1840: zawierający w sobie dni 366 oraz Święta Rzymskie i Ruskie z oznaczeniem dni galowych; epochy znakomitsze i sentencyje; odmiany xiężyca; sposoby ratowania bydła i o owocach; wiadomości i doświadczenia gospodarskie i astronomiczne; sposoby kuchenne i lekarskie; anekdoty, wiersze i statystyczne wiadomości; przepowiadanie pogody z pająków; odchod poczt w Wilnie i Grodnie; pryncypalniejsze jarmarki oraz święta i posty Staro-Zakonnych*, Wilnia: w Druk. Zymela Typografa i Manesa Romma; [1839]

*Kalendarz Gospodarski na rok pański zwyczajny 1839: zawierający w sobie dni 365 oraz święta rzymskie i ruskie z oznaczeniem dni galowych:*

*epochy znakomitsze: odmiany xiężyca; wiadomości i doświadczenia gospodarskie i astronomiczne; ciekawe rozmaitośći i anekdoty: przepowiednie zmiany powietrza: tabeli: gospodarską i procentową; pryncypalnieysze jarmarki oraz święta i posty Staro-Zakonnych*, W Wilnie: w Druk. Zymela Typografa i Manesa Romma, [1838]

*Kalendarz Gospodarski na rok pański zwyczajny 1841: zawierający w sobie dni 365: epochy znakomitsze; odmiany xiężyca; tabelę wschodu i zachodu słońca; rzecz o gospodarstwie w Litwie; o chorobie jagniąt; wiadomości i doświadczenia gospodarskie i astronomiczne; sposoby kuchenne i lekarskie; anekdoty; wiersze i ciekawe rozmaitości; dokończenie o pająkach i osobliwości; odchod i przychod poczt w Wilnie i Grodnie; pryncypalnieysze jarmarki oraz święta i posty Staro-Zakonnych*. W Wilnie: w Druk. Zymela Typografa i Manesa Romma; [1840].

Krasiński A. S. *Wspomnienia biskupa Adama Stanisława Krasińskiego*, Kraków, 1900

*Pamiętniki polskie*: Tom Piérwszy, Zeszyt Piérwszy, Paryż, 1844

Puzynina G. *W Wilnie i w dworach litewskich : pamiętnik z lat 1815-1843*, Wilno, druk Józefa Zawadzkiego, 1928

Stankar T. *Chronologia litewska i polska od najpierwszych początków państw tych do ostatnich czasów politycznego ich bytu, 1794 r. doprowadzona*. Wilno, Zawadski, 1854

Szybiak I. *Szkolnictwo Komisji Edukacji Narodowej w Wielkim Ksęstwie Litewskim*. Wrocław, 19 73

Tarkowska E. *Czas w społeczeństwie. Problemy ,tradycje, kierunki badań.* Wrocław Warszawa Kraków Gdańsk Łódź, Zakład narodowy imienia Ossolińskich, Wyd. PAN, 1987

*Акты, документы и материалы по политической и бытовой истории 1812 г.*, т. 3, Петербург, 1912

Блок М. *Апология истории, или Ремесло историка / Пер. с фр.* , Таллин, Ээсти раамат, 1983

*Дневник Сестренцевича, первого митрополита всех римско-католических церквей в России.* Ч.1, Петербург, 1913

Добрынин Г. *Истинное повествование или жизнь Гавриила Добрынина им самим написанная в Могилеве и в Витебске.1752-1823* , Спб., 1872

Дунін-Марцінкевіч В. *Творы.* Мінск, Мастацкая літаратура, 1984

*Записки игумена Ореста. Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-западной Руси*. Т. 2, Вильно, 1867

*Инвентарь Якунского староства Ошмянского повета.*[в:] *Акты Виленской археографической комиссии (АВАК)*, т. 35, Санкт-Петербург, 1910

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусіўу Гродна, ф.1, воп. 4, спр. 656

*Полное собрание законов Российской империи* (ПСЗРИ) Изд. второе, т. VII, Санкт-Петербург , 1833, №№ 5870, 5670, 5708

*Полное Собрание законов Российской Империи*, СПб, 1830, т. XXV, №№ 18734, 19681

Пшацлаўскі В. *Калейдаскоп успамінаў.* Т.1. Мінск, Лімарыус, 2012

Романенко И.В. *Трансформация статуса белорусской сельской женщины в XX - начале XXI в.* НАН Беларуси, Центр исслед. белорус. культуры, яз. и лит., Фил. "Ин-т искусствоведения, этнографии и фольклора им. Кондрата Крапивы", Минск, Беларуская навука, 2015

Российский государственный архив древних актов, ф12, д.358,

Сыракомля Ул. *Дарожны дзённік 1856 года*. *Выбраныя творы*: Цвірка Кастусь - укладанне, прадмова, каментары. Мінск, Беларускі Кнігазбор, 2010

Сяльверстава С.Я.*Гарадзенскі друкар Зымель Нахімовіч*.[у:] *Форум*, 1996 , № 4, с.38-40.

*Федор Яковлевич. Миркович 1789-1866. Его жизнеописание, составленное по собственным его запискам, воспоминаниям близких людей и подлинным документам* [сост.: Александр Миркович, Михаил Миркович]. С.-Петербург : Военная тип., 1889

Шпилевский П. М. *Путешествие по Полесью и Белорусскому краю*, Минск, Полымя, 1993

Вячаслаў Швед[1]

## Дзяржаўнае становішча ВКЛ перад канчатковай стратай незалежнасці (1794-1795 гг.)

Viachaslau Shved

## State position of the GDL before the final loss of independence (1794-1795).

**Рэзюме:** У 1794-1795 гг. існавала Вялікае Княства Літоўскае і яго грамадзяне - лцвіны. Сталіцай быў горад Гродна, дзе было створана Галоўнае Літоўскае Праўленне (па

[1] Варшаўскі ўніверсітэт, доктар гістарычных навук, прафесар

аналогіі з расійскімі Правінцыйнымі палатамі), якое складалася з чатырох аддзелаў: дзяржаўнага, эканамічнага і двух судовых (крымінальнага і грамадзянскага) і дзейнічала ў былым палацы А. Тызенгаўза . Тэрыторыя Вялікага Княства Літоўскага складалася спачатку з 17, а затым з 19 паветаў, падзеленых на тры часткі (ваяводствы) - Гродзенскую, Віленскую і Ковенскую. Былі межы, афіцыйна устаноўленыя, з мытнікамі і памежнікамі. На чале Вялікага Княства Літоўскага стаяў генерал-губернатар Літвы Мікалай Рапнін, хоць у Гродне знаходзіўся тады вялікі князь Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Таксама быў праведзены дзяржаўны перапіс насельніцтва ВКЛ.
**Ключавыя словы:** Вялікае Княства Літоўскае, страта незалежнасці, дзяржаўнае ўладкаванне.

**Abstract:**
In the years 1794-1795. there was the Grand Duchy of Lithuania and its citizens - Licwini. The capital was the city of Grodno, where the Supreme Lithuanian Government (similar to the Russian Provincial Chambers) was established, consisting of four departments: state, economic and two judicial (criminal and civil) and operated in the former palace of A. Tyzenhauz. The territory of the Grand Duchy of Lithuania first consisted of 17 and then from 19 poviats, divided into three parts (voivodships) - Grodzieńska, Wileńska and Kowieńska. There were officially established borders with customs and border guards. The General-Governor of Lithuania, Mikołaj Repnin, became the head of the Grand Duchy of Lithuania, although Grand Duke Stanisław August Poniatowski was in Grodno at that time. There was also held the state census of the GDL.

**Keywords:** Grand Duchy of Lithuania, loss of independence, state arrangement.

На пачатку неабходна зрабіць невялікі гістарыяграфічны агляд, каб патлумачыць, чаму аўтар звярнуўся да напісання артыкула на заяўленую тэму. Спачатку расійская класіка – творы С. Салаўёва “История падения Польши” (М., 1863) і М. Кастамарава “Последние годы Речи–Посполитой. Историческая монография” (СПб., 1870). У абодзвух большая ўвага звернута на вайсковыя справы; адносіны Прусіі, Аўстрыі, Расіі паміж сабой па польскім пытанні; дзеянні гродзенскага сейма 1793 г., паўстанне 1794 г. Праблемы, пастаўленыя ў нашым артыкуле, не разглядаліся.

У Беларусі пра падзелы Рэчы Паспалітай напісана шмат, ад падручнікаў да манаграфій, з паказам розных поглядаў і канцэпцый на адбыўшыйся факт страты дзяржаўнасці ліцвінска-беларускай дзяржавы. Гэта кнігі гісторыкаў Я. Анішчанкі; У. Арлова і Г. Сагановіча; П.І. Брыгадзіна, спецыяльны артыкул А. Філатавай[1], якія больш-меньш

[1] Арлоў У., Сагановіч Г. *Дзесяць вякоў беларускай гісторыі (862 - 1918): Падзеі. Даты.Ілюстрацыі*. Вільня: Наша Будучыня, 1999, с. 158-161 (аўтар тэксту У. А.); Брыгадзін П. І. *Гісторыя Беларусі ў кантэксце еўрапейскай цывілізацыі: вучэбны*

аб’ектыўна раскрылі тэму падзелаў. Да тэмы артыкула найбольш блізка падыйшоў з названых толькі Я. Анішчанка. Калі ў яго энцыклапедычных артыкулах (“Другі падзел Рэчы Паспалітай” і “Трэці падзел Рэчы Паспалітай”) і кнізе “Сторона неприкаянная: книга о утрате нашей вольности” увага засяроджана на механізме падзелаў і страце незалежнасці[1], дык у кнігах ніжэй названых ён наблізіўся да новага для сябе аспекта падзелаў. Так, у зборніку дакументаў “Восстание и война 1794 в литовской провинции” ён піша, што дакументы, якія знайшоў у РДАСА і РДВГА, напісаны па-руску і ВКЛ называецца “Литовской провинцией или провинцией ВКЛ, а жители обыватели – литвинами или литовцами”[2]. У 2003 г. у Анішчанка выйшла чарговая багатая факталогіей кніга – “Інкарпарацыя”, у якой была звернута ўвага на Літву пад намесніцтвам М. Рапніна: складзена Вярхоўнае літоўскае праўленне, заяўлена пра часовае дзеянне Статута ВКЛ, прынята прысяга жыхароў на вернасць Кацярыне II, праведзена першая падушная рэвізія, тэрыторыя ВКЛ падзелена на Віленскае і Слонімскае наместніцтвы[3].

Асобна хацеў бы адзначыць працу С. Куль-Сяльверставай “Палітыка. Культура. Асоба. Нарысы па гісторыі культуры Беларусі”, у якой ёсць раздзел “Ад каралеўскага горада да губернскага цэнтра на мяжы 18-19 ст.”. [4]Факусіруючы ўвагу на гісторыі Гродна, яна закранае значную частку фактаў па дзяржаўнасці ВКЛ 1794-95 гг.: Літоўскае вярхоўнае праўленне (С. Куль-Сяльверстава называе яго Галоўным праўленнем Літвы); прысяга на вернападданства Расійскай імперыі; знаходжанне польскага караля ў Гродне; мерапрыемствы па ўсталяванню мяжы з Прусіяй, развіццё пошты, мытнай службы, стварэнне губерній.

Польскія гісторыкі пісалі спецыяльныя кнігі, прысвечаныя падзелам Рэчы Паспалітай, але ў іх таксама большая ўвага надавалася самому

*дапаможнік.* Мінск, 2015, с. 88-89; Філатава А. *Тры падзелы Рэчы Паспалітай* [у:]*Крыжовы шлях*. Мн., 1993.

[1] Анішчанка Я. *Другі падзел Рэчы Паспалітай* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі.* Т. 3. Мн., 1996, с. 287, *Трэці падзел Рэчы Паспалітай* [у:] Тамсама, Т. 6. Мн., 2001, с. 534-535.

[2] *Восстание и война 1794 в литовской провинции*. М., 2000, с. 7; 16, 158.

[3] Анішчанка Я. *Інкарпарацыя. Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай*. Мінск, Хурсік, 2003.

[4] Куль-Сяльверстава С. *Ад каралеўскага горада да губернскага цэнтра: Гродна на мяжы 18-19* стст. [у:] *Палітыка. Культура. Асоба.Нарысы па гісторыі культуры Беларусі*, Гродна ЮрСаПрынт, 2012, с. 29-39

падзелу, войнам і паўстанню 1794 г., яго ўдзельнікам[1]. Ёсць толькі адзіная праца прысвечана праблемам нашага артыкула. Яе напісаў Л. Жытковіч і мы будзем спасылацца на яе[2].

Сам аўтар дадзенага артыкулу пісаў на тэму падзелаў Рэчы Паспалітай, гісторыі Гродна ў гэты час у кнізе “Горадня: аповяды з гісторыі горада (сярэдзіна 16 – канец 18 ст.)”, манаграфіі “Беларусь паміж Польшчай і Расіяй: Грамадска-палітычнае жыццё (1772-1863)” і інш.[3]. Як і папярэднія гісторыкі я *амаль* не закранаў праблему дадзенага артыкула і толькі цяпер, дзякуючы патрапіўшым у мае рукі дакументам, вырашыў напісаць пра мала вядомае, але актуальнае.

У прадстаўленым артыкуле я выкарыстоўваю тэрміны: “Вялікае княства Літоўскае” і “грамадзяне ВКЛ”, таму хачу адразу папярэдзіць чытачоў, што ўзяў іх з аналізаваных дакументаў даследуемага часу. Два дакумента з “Полного собрания законов Российской империи”: “О свободном обращении банковых ассигнаций в Великом Княжестве Литовском” ад 8.02.1795 (так, усе тры словы напісаны былі з вялікай літары); імянны Рапніну “О приведении в благоустройство церквей Римско-католического исповедания в Великом Княжестве Литовском” ад 6.09.1797. У прааналізаваных дакументах (аб’явах, маніфестах, указах), якія вышлі з канцылярыі Мікалая Рапніна за 1795 г. ад 23.03, 26.03, 30.03, 12.04., 10.06., 4.09, 14.10, а таксама за 1796 г. за 6.02. і 2.03. напісана “Великое Княжество Литовское”, а ў некаторых дакументах ёсць тэрмін “обыватели Великого Княжества Литовского”[4].

Другога лістапада 1794 г. у Гродна быў абвешчаны імянны ўказ, дадзены ліфляндскаму, эстляндскаму і літоўскаму генерал-губернатару князю Рапніну ад 30.10 (10.11).1794 г. Як гэта адбывалася піша ў сваёй кнізе М. Де-Пуле. У 9.00 пад выстрал гарматы на ратушнай плошчы сабралося расійскае войска, а ў доме генерал-маёра графа Палена – “все

---

[1] Cegelski T., Kadziela Z. *Rozbiory polskie. 1772-1793-1795 r.* Warszawa, 1990; Zielińska Z. *Ostatnie lata Pierwszej Rżeczypospolitej*. Warszawa, 1986.

[2] Żytkowicz L. *Rządy Repnina na Litwie w l 1794-7,* Wilno 1938.

[3] Швед В.В. *Горадня: аповяды з гісторыі горада (сярэдзіна 16 – канец 18 ст.)* В.В. Швед, А.П. Госцеў. Гродна, Пергамент, 1997; Госцеў А., Швед В. *Кронан. Летапіс горада над Нёманам (1116-1990).* Гродна, 1993; *У час паўстання 1794 г.* [у:] *Памяць. Гродна.* Мн., 1999, с. 138-140; *У складзе Расійскай імперыі*. Тамсама, с.143-145; Швед В.В. *Беларусь паміж Польшчай і Расіяй: Грамадска-палітычнае жыццё (1772-1863 гг.),* Гродна, 2001.

[4] *Полное собрание законов Российской империи* (далей ПСЗРИ). Собрание первое. Т. XXIII. 1789- 6 ноября 1796 г. СПб., 1830, с. 652, 763.

знатныя асобы", а незнатныя – у царкве. У 10.00 пасля наступнага стрэла гарматы усё чынавенства і знатныя асобы на чале з Паленам пайшлі ў дом генерал-губернатара (былы палац А. Тызенгаўза), а духавенства ў царкву. У палове 11 гадзіны генерал-губернатар разам с сабраўшыміся ў яго доме пайшоў у царкву пад трэці стрэл гарматы. Адсюль Рапнін выйшаў у езуіцкі кляштар, дзе чакалі яго каталіцкае духавенства, чыноўнікі, магістрат, купецтва, рамеснікі. Сустракаючыя генерал-губернатара пайшлі на імшу, а Рапнін вярнуўся ў царкву. Пасля абедні ён зноў прыйшоў у касцёл і там зачыталі маніфест пад 101 стрэл гармат. Затым епіскап правёў удзячны малебен за здароўе імператрыцы і зачытаў прысягу на вернападданства ёй і яе спадчыннікам, а ўсе паўтаралі за ім словы, а пазней падпісалі прысяжныя лісты. У 7 гадзін вечара знатнае духавенства і дваранства запрошана было на вячэру і бал у генерал- губернатара[1].

Што ж гаварылася пра дзяржаўнасць у Імянным указе, дадзеным Ліфляндскаму, Эстляндскаму і Літоўскаму генерал-губернатару Мікалаю Рапніну?

У пункце I сцвярджалася пра адміністрацыйнае ўладкаванне Вялікага княства Літоўскага: "Разделить Княжество Литовское на три части и назначить средоточие сих частей в Вильне, в Гродне и Ковне или Кейданах по удобности, приписав к Гродне, например, остатки Новоградского, Брест-Литовского и часть Троцкого воеводств, к Ковне все Жмудское Княжество и часть Трокского воеводства, а к Вильне Виленское воеводство, и потом учредить во всех сих трёх областях исполнительную власть под главным вашим руководством действовать имеющую, блюстителями коей будут корпусные войск Наших начальники, сообразно чему расположите войска им порученные в тех местах, где должны они соединять власть воинскую со властью исполнительною по части Правления, и предпишите им, чтоб введя свои корпусы в зимовые квартиры, приняли они в своё ведомство и защиту все, составляющие земские их части, поветы или округи и предпоруча каждую округу или повет в особливое попечение Бригадного или старшаго из тех полковых баталлионных командиров, коих командами та округа занята будет, истребовали бы от Дворянского, Городских и сельских обществ комиссаров, имея оных при генеральных квартирах, употребляли при расположении и выполнении всякого рода нарядов с земли, доколе

[1] Де-Пуле М. *Станислав-Август Понятовский и Літва в 1794 -1797 годах*. Издание 2-е. – СПб., 1871. с. 42-43; Милютин Д. М. *Гродна в 1794, 1795, 1796 годах.* Гродна, 1905, с. 6-8.

определятся от вас в города городничие, а в округи капитан-исправники, о которых ниже сего упомянуто будет…”[1].

У п. II абвяшчалася пра стварэнне ў Гродне Вярхоўнага Літоўскага Праўлення (далей ВЛП) з чатырох аддзяленняў (польскія даследчыкі называюць іх дэпартаментамі) пад старшынствам літоўскага генерал-губернатара М. Рапніна. У наступным III пункце апошняму даручалася прызначыць начальнікаў аддзелаў, экспедытараў і арганізаваць канцылярыю ВЛП. У п. IV тлумачылася сутнасць ВЛП – яно прыраўнівалася да губернскага праўлення, казённай і судовых палат. У двух наступных пунктах ∨ і VI апісваліся функцыі казённага і судовых аддзяленняў. В п. VII гаварылася: “Мы желаем, чтоб Верховное Правление облегчало жребий преступника благостию законоположений России от нас даных, истребя по всей Литве пытки и смертную казнь”[2]. У п. VIII апісваліся функцыі адзялення эканамічнага або дамаводства. Згодна п. IX складалася гарадская ўлада, а ў X тлумачылася, што зарплата чыноўнікам будзе выплочвацца з сум збіраемых падаткаў. У п. XI Рапніну загадвалася звярнуць увагу на выхаванне юнацтва ў Віленскай акадэміі і школах піяраў, на цэнзуру друкуемых кніг.

У п. XII быў змешчаны Маніфест “земскаго в Литве правления”. Над тэкстам яго М. Рапнін працаваў спачатку сам. У яго дакуменце было 9 пунктаў, а ў пецярбургскай рэдакцыі іх стала 12. У апошнюю ўвайшлі 3-7, 9 рапнінскія тэзісы ў рэдактарскай праўцы. У абвешчаным маніфесце гаварылася наступнае:

1. Пра міласць і прабачэнне.
2. Аб “дасканалай і нічым не абмежаванай вольнасці ў публічным адпраўленні веры”, аб зацверджанні праў валодання і бяспекі асобы.
3. Аб падзеле ВКЛ на тры часткі.
4. Тэкст прысягі на вернападданства. Прымаць яе толькі ад “наличных и усердных”.
5. Зварот да рыма-каталіцкага духавенства, каб яно падавала асабісты прыклад сваім вернікам.
6. Вольнасць гандлю, рамяства, промыслаў, заняцця сельскай гаспадаркай і будаўніцтвам.

[1] *ПСЗРИ*. Собрание первое. Т. XXIII, с. 573.
[2] *ПСЗРИ*. Собрание первое. Т. XXIII, с. 576.

7. Усе жыхары, незалежна ад пола, узроста і стана заклікаюцца да спакою пад “страхом законной строгости”.
8. Забараняецца атрымоўваць забароненую узбуджаючую літаратуру і перадаваць яе іншым. Патрабаванне даносіць пра яе расійскім уладам.
9. У расійскіх вайсках, размеркаваных у ВКЛ, захоўваць “строжайшую военную дисциплину”. За іх харчаванне разлічвацца з насельніцтвам “полною заплатою каждому”. Нагляд за гэтым ускласці ў кожным павеце на камісараў, якія будуць адказваць перад спецыяльнай камісіяй, створанай генерал-губернатарам.
10. Падаткі, збіраемыя ад землеўласнікаў, будуць збіраць не асобы, якія былі ў час паўстання, а новыя або тыя, хто займаўся гэтай справай да паўстання.
11. Аб узмацненні спакою па прыкладу беларускіх губерній (Мінскай, Ізяслаўскай, Браслаўскай).
12. Дадзены маніфест чытаць у манастырах і прыходах чатыры нядзелі, а таксама размясціць у належачых месцах, каб кожны мог азнаёміцца са зместам[1].

У п. XIII указа гаварылася пра вяртанне сяквестраваных паўстанцамі маёнткаў былым уладальнікам. Знойдзены хлеб, які на той момант належаў скарбу, загадвалася раздаць немаёмасным жыхарам і расійскаму войску.

Разглядзім падрабязней як выглядала арганізацыя Вялікага княства Літоўскага ў 1794-96 гг. паводле маніфеста і дакументаў, выходзячых у гэты час з-пад рукі Рапніна.

Вялікі князь літоўскі. Аб ім не гаварылася ў дакументах нічога. Асноўны ўспамін быў толькі пра караля польскага Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які адначасова быў і вялікім князем літоўскім. Пасля заняцця А. Суворавым Варшавы ён павінен быў па прадпісанню Кацярыны II (узгодненым з прускім і аўстрыйскім дварамі) пераехаць у Гродна, дзе і жыў у Новым замку з 1 (12).01. 1795 па 15.02.1797 г. На ўтрыманне двара рускі ўрад выдаваў 7 705 чырвонцаў, і на “кішэнныя выдаткі” Станіслаў Аўгуст Панятоўскі атрымоўваў 3 295 чырвонцаў. Яшчэ па дарозе ў Гродна генерал-губернатар Літвы Рапнін даў сакрэтнае прадпісанне князю П.Д.

[1] Рубинштейн С.Ф. *Хронологический указатель указов и правительственных распоряжений по губерниям Западной России, Белоруссии и Малороссии за 240 лет с 1652 по 1892 год.* Вильна, 1894. с. 159; Де-Пуле М. *Станислав-Август Понятовский и Літва..*, с. 39-41; *ПСЗРИ*. Т. XXIII. 1789-6 ноября 1796 г. СПб., 1830, с. 580-586.

Цыцыянаву як яго там утрымоўваць: абмежаваць у перапісцы і сачыць за карэспандэнцыяй; не дапускаць кантактаў з мясцовымі жыхарамі і гандлярамі; весці штодзённыя запісы каралеўскіх гасцей у палацы; сачыць за кантактамі світы караля з духоўнымі асобамі і ў корчмах; трымаць вайсковя каравулы заўсёды гатовымі да дзейнасці; па вуліцах наладзіць конныя раз'езды, якія будуць рабіць гэта кожны дзень у розных месцах і часе, каб злачынцы не маглі прыстасавацца да графіка вайскоўцаў.

У Гродна Станіслава Аўгуста Панятоўскага ўзялі пад апеку і кантроль знаёмы былога караля генерал-губернатар Літвы Рапнін, камісар (прыставў) граф генерал-маёр Ілья Безбародка, а таксама сакратар караля Фрысе. На ахову была вызначана рота і 30 канвойных драгунаў, з якіх 24 з афіцэрам былі змешчаны ў перадпакоях і павінны былі заўсёды ездзіць з каралём, а 6 заставацца пры двары. Вялікі князь літоўскі і кароль польскі не мог нікуды выехаць з Гродна – гэта было адзіным абмежаваннем, а жыццё яго двара адбывалася як у Варшаве: аўдыенцыі, прэзентацыі, цырыманіяльныя і прыватныя прыёмы, дворскія і прыяцельскія абеды і вячэры. Былы кароль напісаў у Гродне большую частку сваіх "Успамінаў", упарадкаваў сваю калекцыю нумізматыкі, медалёў і старажытных рэчаў. Доўга вывучаў нейкі старажытны камень, які быў знойдзены ў Ласосне над Нёманам. Калі дазваляла надвор'е, любіў пагуляць на замкавым дзядзінцы, а з 15.03.1795 стаў выязджаць за горад.

25.11.1795 г. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі па загаду Кацярыны II падпісаў адрачэнне ад прастола. Гэта адбылося альбо ў Новым замку, альбо ў палацы Тызенгаўза, дзе жыў Рапнін (столік на якім падпісана адрачэнне магчыма знаходзіцца ў Літоўскім нацыянальным музеі). Яму паабяцалі аплаціць ягоныя даўгі і заапекавацца сёстрамі. 16.11.1796 кароль даведаўся пра смерць Кацярыны II. 6.11.1796. Новы імператар Павел I запрасіў караля ў Пецярбург, дзе ён і памёр[1].

Галоўную ролю ў кіраванні княствам Літоўскім даследуемага часу адыгрываў Рапнін Мікалай Васільевіч (1734 - 1801). Прывядзем невялікую біяграфічную даведку гэтай асобы. Літоўскі генерал-губернатар і глава

---

[1] Безбородко И.А. *Журнал пребывания его величества, короля польского, Станислава Августа в Гродне 1795-1796 годов, ведённый приставом при нём генерал-поручиком И.А. Безбородком.* М., 1870. 158 с.; Де Пуле. М. *Станислав-Август Понятовский в Гродне и Литва в 1794-1797 годах,* с. 12-27, 78-79, 85, 98-99, 180-181; Швед В.В. *Горадня: аповяды з гісторыі горада (сярэдзіна 16 – канец 18 ст.);* P.J. Bykowski. *Dwór królewski w Grodnie. Epizod biograficzny (1795-1797).* Warszawa, 1884. 152 s; Czarnowski R. J. *Grodno. Zapomniana stolica*. Warszawa, oficyna wydawnicza RYTM, 2015,. S. 49 - 62

Вярхоўнага літоўскага праўлення, князь быў сынам рускага генерала В.А. Рапніна і ўнукам генерал-фельдмаршала Анікіты Рапніна (любімца Пятра І), пляменнікам ўсемагутнага расійскага канцлера М. Паніна. Меў добрую адукацыю, ведаў дасканала французскую, італьянскую і нямецкую мовы. Быў дырэктарам сухапутнага даследчыцкага корпуса (1763), потым паўнамоцным міністрам у Польшчы, дзе дамогся (сумесна з К. Радзівіллам) дамовы аб свабодзе вераспавядання і грамадзянскіх праў для ўсіх дысідэнтаў (1767). Рапнін пастаянна баяўся прывіда рэвалюцыі, і спаць яму не давала дзейнасць тайных таварыстваў, хаця сам належаў да масонаў і ілюмінатаў, а таксама да філасоўска-рэлігійнай школы марціністаў. Удзельнічаў у руска-турэцкіх войнах (1770-1774, 1787-1791), быў Паўнамоцным пасланнікам у Турцыі, генерал-губернатарам у Смаленску і Оршы, пскоўскім генерал-губернатарам (1781). У 1794 быў пасланы на падаўленне паўстання ў Літве і Беларусі, атрымаў чын генерал-аншефа.

30.10. 1794 г. Рапнін быў прызначаны літоўскім генерал-губернатарам. Комплекс дакументаў (аб'вы, указы, маніфесты, універсалы), якія мы праглядзелі за 1795-97 гг., якія выйшлі з-пад рукі Рапніна, паказвае, што названы вышэй тытул сустракаецца ў дакументах з 1.01.1795 г. Вось, што чытаем у дакуменце ад 30.03/10.04.1795: "то по Высочайше возложенному на меня ЕЯ ИМПЕРАТАРСКИМ ВЕЛИЧЕСТВОМ Самодержицею Всероссійскою Нашею Всемилостивейшею Государынею начальству в Великом Княжестве Литовском..". У дакуменце з датай 18.04.1796 г. ужо з'яўляецца тытул Віленскі і Слонімскі генерал-губернатар, 10.11.1796 Рапнін у звароце да жыхароў Віленскай і Слонімскай губ. падпісываецца як літоўскі генерал-губернатар. Міхал Залескі, былы войскі ВКЛ, у сваім дзённіку піша, што пасля смерці Кацярыны ІІ, 17.09.1796 г., генерал-губернатар быў выкліканы ў Пецярбург[1].

Палітычным ідэалам Рапніна была Расія, створаная Кацярынай ІІ, "маральна – прасветленая і больш дабрабытная". І пад гэтую мерку ён падганяў край, якім стаў кіраваць. А яшчэ Рапніну дастаўся абавязак запяспечваць жыццё Станіслава Аўгуста Панятоўскага, калі ён жыў у Гродне пасля другога падзела Рэчы Паспалітай. Рапнін сцісла выконваў волю і загады Кацярыны ІІ адносна вялікага князя літоўскага і караля польскага, але стараўся іх злагодзіць і рабіць меньш цяжкімі. Польскі даследчык П. Быкоўскі піша: "…палітыканстваваў стары дыпламат, каб

[1] *Pamiętniki Michala Zaleskiego, wojskiego WKL, posla na sejm czteroletni*[w:] *Rocznik Towarzystwa Historyczno-literackiego w Paryzu. Rok 1873-1878.* T. 2. Poznań, 1879, s. 137.

выйсці цэлым з гэтай двузначнай пазіцыі, сваю манархіню задаволіць і ў вачах Еўропы не выглядаць пераследавацелем падаючага парадка”. Фельдмаршал, камандзір літоўскай дывізіі і вайсковы губернатар Рыгі (8.12.1796). Пасля неўдалага пасольства ў Берліне і Вене (1798) быў звольнены са службы і пасяліўся ў Маскве[1] .

Паводле Гродзенскай канстытуцыі 1793 г. вышэйшая ўлада ў Рэчы Паспалітай належала Сейму, які меў толькі адну палату – Сенат, які складаўся з ваяводаў (10 каронных і 8 літоўскіх), каштэлянаў, міністраў (па 8 ад Кароны і Літвы), прымаса Кароны і Літвы, па 4 каронных і літоўскіх біскупаў, арцыбіскупа метрапаліта рускага Кароны і Літвы. Існавалі таксама сеймікі элекцыйныя (выбіралі паслоў на сейм, камісараў, земскіх суддзяў), дэпутацкія і гаспадарчыя[2]. А што гавораць дакументы трох наступных гадоў?

Не захопленая яшчэ афіцыйна ВКЛ была падзелена на тры часткі (ваяводства) з цэнтрамі ў Гродне, Вільні і Коўне. У кожнай была свая выканаўчая ўлада (адпаведна першымі адміністратарамі былі П. Цыцыянаў, Б. Кноррынг, С. Галіцын[3]), падпарадкаваная генерал-губернатару Рапніну – галаве ўрада (праўлення) ВКЛ. Ва ўніверсалах яго сустракаюцца словы “граніца” (мяжа), “пограні́чная стража” (“памежная ахова”). Напрыклад, у аб’яве ад 1/12.01.1795 г. гаворыцца аб дазволе вывазу за мяжу “сдешней земли продуктов”: ячменя, пшаніцы, ільнянога і канаплянага масла, сала, скураў, воску, быдла і д. п. З іншых жа тавараў трэба браць мытням і памежнай ахове мыта. У аб’яве ад 12/23.04 указвалася, што дазваляецца “ввозить в здешнюю область [ВКЛ - В.Ш.] и чужестранные табаки, с платежем за то положенных пошлин по тарифам”. Ва ўніверсале Рапніна ад 24.04/05.05.1795 г. гаворыцца пра стварэнне мытнай аховы з конных войск, якая павінна “охранять таможни и таможенныя заставы, делать разъезды по таможенной цепи для пресечения тайного провоза товаров и преподавать во всех случаях законное пособие и защиту”. У аб’яве І. Фрызеля ад 19.02.1796 г. гаварылася, што ад казённага аддзялення ВЛП “отдаётся в подряд построение разных по границе Литвы Таможенных строений... ”.

---

[1] Де-Пуле М. *Станислав-Август Понятовский и Літва..,* с. 25-27; P.J. Bykowski. Dwór królewski w Grodnie. Epizod biograficzny (1795-1797).; Брандыс М. *Исторические повести.* М., 1975, с. 43, 71.

[2] *Organizacja państwa polskiego według ustaw Sejmu Grodzieńskiego z roku 1793* / St. Choliński , Warszawa 1918, s. 15-19.

[3] Żytkowicz L. *Rządy Repnina na Litwie w l. 1794-7*, s. 89, 91, 92.

У Гродне было створана Вярхоўнае Літоўскае Праўленне, якое мела ўладу і правы губернскага праўлення і судовых палат (грамадзянскай і крымінальнай)[1]. Чальцамі Праўлення сталі старшыня Рапнін, губернатар (М. Панін), віцэ-губернатар (верагодна, гэтая пасада не адбылася) і начальнікі аддзяленняў (дэпартаментаў), дзеючыя адпаведна пастанове аб губернях. Старшыня прызначаў у гарады гараднічых і мог прысвайваць ім чын 8 класа, а ў акругі – капітан-спраўнікаў, сакратароў, казначэяў, канцылярскіх і іншых чыноўнікаў з правам прысваення ім чына да тытулярнага дарадцы. Паседжанні ВЛП спачатку адбываліся штодзённа, але 12/23.11.1795 Рапнін загадаў праводзіць іх толькі ў аўторкі і пятніцу, каб не абцяжарваць занятых начальнікаў дэпартаментаў[2].

ВЛП складалася з 4 аддзяленняў:

1. Казённае/Скарбавае адпавядала губернскай скарбовай палаце і заведвала даходамі, якія ў часы Рэчы Паспалітай паступалі з дзяржаўных і каралеўскіх (сталовых) зямель, а таксама з усёй іншай маёмасці, адышоўшай да дзяржавы або караля (памерлых арэндатараў маёнткаў, манастыроў, езуіцкіх кляштараў, землі паўстанцаў). Заведваў дэпартаментам палкоўнік Іван/Ян Фрысель (пасля ліквідацыі ВЛП стане дырэктарам пошт у Літве).
2. Эканамічнае /Дамаводства/ павінен быў прыняць у сваё кіраванне маёнткі, якія засталіся без гаспадароў ці секвестраваныя і канфіскаваныя ў паўстанцаў, узяць пад апеку мануфактуры і іншыя прадпрыемствы, эканоміі, землі – усё, што “для казны полезным найдётся”. Заведваў дэпартаментам прэм’ер-маёр Пётр Літке, а затым падпалкоўнік Пракоп Багмеўскі (ад’ютант Рапніна, у 1806-08 віленскі грамадзянскі губернатар). Працавалі чыноўнікі дэпартамента ў былым езуіцкім кляштары.

3–4. Крымінальнае і грамадзянскае/цывільнае/ адпавядалі губернскім судовым палатам. Першапачаткова абодва дэпартаменты павінны былі быць пасярэднікамі паміж Літоўскім трыбуналам і Сенатам у Пецярбургу, але трыбунал не быў адроджаны. Таму дэпартаменты сталі прымаць апеляцыі ад гродскіх, земскіх і гарадскіх судоў (ратушы, магістраты). Працавалі усе суды па расійскіх законах. Крымінальны дэпартамент узначаліў брыгадзір Іван Русанаў (былы

[1] У гэты час у Расійскай імперыі адбывалася губернская рэформа, і на землях Беларусі праходзіў па сутнасці эксперымент.
[2] Рубинштейн С.Ф. *Хронологический указатель..,* с. 160; Żytkowicz L. *Rządy Repnina na Litwie..*, s. 94.

члец Смаленскай следчай камісіі над паўстанцамі 1794 г.), а грамадзянскі – надворны дарадца Мікалай Волкаў (пасля ліквідацыі ВЛП стане віцэ-губернатарам Слонімскім, а затым Літоўскім)[1].

Сакратаром ВЛП быў Антоні Манькоўскі, былы веліжскі сакратар павятовага суда і перакладчык Смаленскай следчай камісіі. Скарбнікам ВЛП стаў маёр Ахтырскага палка Дворнікаў. Канцылярыя павінна была складацца з 48 чал., а агульная па ўсім дэпартаментам – 202. Вядомыя даследчыку Жытковічу прозвішчы чыноўнікаў скарбовага і эканамічнага дэпартаментаў падцвярджалі іх польскае паходжанне. На яго погляд адбылося такое па прычыне не ведання расіянамі польскай мовы. ВЛП кантактавала з грамадскасцю менавіта на ёй. Захаваныя пратаколы паседжанняў названых дэпартаментаў таксама падцвярджаюць гэтую выснову[2]. Даследчык Я. Анішчанка на аснове дакументаў РДАСА піша, што ў ВЛП толькі 18 чалавек ведала польскую і нямецкую мовы і з гэтай прычыны было загружана справамі[3]

У кожны дэпартамент ваяводства (3 часткі ВКЛ) выбралі на сейміках у студзені 1795 (ці ўсё ж прызначылі?) па 1 экспедытару, якія атрымалі чын 11 класа падобна губернскім радцам. У іх задачу ўваходзіла вырашаць справы ў дэпартаментах і падрыхтоўваць іх на паседжанні ВЛП, у якіх самі яны не ўдзельнічалі. У экспедытары ў асноўным патрапілі “давераныя, верныя, шчырыя” мясцовыя абываацелі, але апынуліся сярод іх і былыя супрацоўнікі Літоўскай скарбавай камісіі і Скарбавага аддзела Цэнтральнай дэпутацыі ВКЛ (напрыклад, Валенты Пжэсмыцкі, Ян Людвік Бецу, Зянон Махвіц)[4].

Ганаровае адкрыццё ВЛП адбылося ў чарговую гадавіну ўзыйсця Кацярыны II на расійскі прастол – 28.06/09.07.1795 г. Але паседжанні некаторых дэпартаментаў пачаліся раней: скарбовага – 9/20. 04, эканамічнага – 16/27.04. Агульныя паседжанні ВЛП, магчыма, пачаліся ў ліпені 1795, калі пачалі дзейнічаць і два судовыя дэпартаменты. Адбываліся яны ў былым палацы А. Тызенгаўза, цяпер стаўшым рэзідэнцыяй Рапніна, а ў будучым – гродзенскіх губернатараў. Скончыла сваю дзейнасць ВЛП у снежні 1795, калі з’явіўся на імя Рапніна указ

[1] Рубинштейн С.Ф. *Хронологический указатель..*, с. 159-161, 163; Żytkowicz L. *Rządy Repnina na Litwie..*, s. 93-96, 100.

[2] Żytkowicz L. *Rządy Repnina na Litwie..*, s. 98; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі (далей НГАБ) у Гродне, ф. 1219, с. 785, 786, 955, 956, 960, 961.

[3] Анішчанка Я. *Інкарпарацыя...,* с. 380.

[4] Żytkowicz L. *Rządy Repnina na Litwie..*, s. 95-96.

Кацярыны II ад 14/25.12.1795, дзе гаварылася аб далучэнні усёй часткі ВКЛ да Расійскай імперыі. Эканамічны дэпартамент ВПЛ працаваў як мінімум да 12/23.11.1796 г., пра што гаворыць пратакол паседжання[1].

Улада ВЛП распаўсюджвалася спачатку на 17 паветаў, а ў 1796 дабавіліся яшчэ 2 (Кобрынскі і Пружанскі) і ў Гродзенскі далучылі частку Падляшша з Беластокам, Харошчай і Васількавым. Паводле Гродзенскай канстытуцыі 1793 г. мясцовую ўладу прадстаўлялі парадкавыя камісіі, выбіраемыя на 4 гады, і маючыя наступныя функцыі: эканамічную і судовую ў паветах і гарадах[2]. Згодна 1 параграфа ўказа Кацярыны ад 30.10/11.11.1794 г. парадкавыя камісіі ліквідоўваліся і іх справы прымалі афіцэры расійскай арміі (ад паручнікаў да секунд- і прым'ер-маёраў). У паветах гэта былі капітан-спраўнікі, якім давалі ў дапамогу 2 служачых былой камісіі (канешне, не камісараў) і яны згодна Палажэння аб губернях 1775 г. займаліся грамадскай бяспекай, супрацьпажарнай аховай, вызначэннем кватэр для войска. Над капітанам-спраўнікам стаяў начальнік павета, які меў высшы афіцэрскі чын. Напрыклад, у Гродзенскім пав. начальнікам быў Павел Цыцыянаў, а капітан-спраўнікам – Мікалай Троцкі. У гарадах пералічаныя вышэй функцыі выконвалі гараднічыя. У Коўне, Гродне, Вільні была арганізавана паліцыя, якая складалася ў першых 2 гарадах з 5 акруговых дазорцаў і іх 5 памошнікаў, а ў Вільні – у два разы больш[3].

З невялікімі змяненнямі захавалася судовая сістэма ВКЛ. Прыгаворы выносіліся ад імя расійскай імператрыцы і ў судах павінна быць так, як было да Канстытуцыі 3 мая (па Статуту ВКЛ). У гарадах аднавілі дзейнасць войтаўска-лаўнічага суда і бурмістра, затым пачаў працаваць земскі суд, які часова выконваў і функцыі межавых судоў. Падкаморскі суд быў адноўлены рашэннем ВЛП ад 30.10.1795 г. Суддзі ва ўсіх судах павінны былі быць тыя, якіх выбралі перад паўстаннем 1794 г., або выбраныя новыя. Літоўскі трыбунал пачаў працу толькі ў 1797 г. і ператварыўся ва ўстанову падобную на тыя, якія былі ў кожнай расійскай губерні – вышэйшы земскі суд (суд II інстанцыі). Апеляцыі спачатку траплялі з судоў сюды, а затым

---

[1] Ibidem, s. 99-100; НГАБ у Гродне, ф. 1219, с. 790.
[2] *Organizacja państwa polskiego*.., с. 36-38.
[3] Żytkowicz L. *Rządy Repnina na Litwie*.., s. 100-102.

маглі ісці ў адпаведны дэпартамент ВЛП, а адтуль у III дэпартамент Сенату[1].

Важнай справай дзяржаўнага значэння было правядзенне перапісу на тэрыторыі ВКЛ, таму што “Из многих прошедших лет опытов, обыватели великого Княжества Литовского должны быть удостоверены, что учиненныя об них переписи, либо не соответствовали прямому предмету их употребления, или не были достаточны или же не содержали в себе потребной верности и точности”. Рапнін прызначыў 14 кастрычніка 1795 г. адзіным днём правядзення перапісу і ўніверсал апісваў яго працэдуру. Але толькі ў канцы ліпеня была скончана ўся праца і агульная справаздача выслана ў Сенат[2].

Можна цалкам пагадзіцца з Л. Жытковічам, што Вярхоўнае літоўскае праўленне было пераходнай установай на шляху ад самастойнага ВКЛ да залежнай часткі Расійскай імперыі, штучным утварэннем на шляху ўніфікацыі органаў кіравання. Думаю, што амаль 19 месячнае існаванне ВКЛ і яго ВЛП падрыхтавала плаўны пераход да губернскай структуры праўлення на захопленых пасля трэцяга падзела беларускіх землях. Гэтаму дапамаглі і польскія чыноўнікі ВЛП, якія ведалі мясцовую сітуацыю і спрыялі змягчэнню сацыяльных канфліктаў. Нездарма ж Павел I па прадстаўленні Рапніна даў Фрыселю, Багмеўскаму, Волкаву і Літке па 250 душ у гродзенскай эканоміі[3].

**Падсумаванне**. У 1794 -1795 гг. існавала Вялікае княства Літоўскае і яго  грамадзяне – ліцвіны. Сталіцай дзяржавы быў горад Гродна, дзе было створана Вярхоўнае літоўскае праўленне (падобнае расійскім губернскім палатам), якое складалася з чатырох аддзелаў: казённага, эканамічнага і дзвух судовых (крымінальнага і грамадзянскага) і працавала ў былым палацы А. Тызенгаўза. Тэрыторыя ВКЛ складалася зпачатку з 17, а затым з 19 паветаў, якія ўваходзілі ў тры часткі (ваяводствы) – Гродзенскую, Віленскую і Ковенскую. Меліся межы, афіцыйна усталяваныя, з мытнямі і памежнай аховай.  Кіраўніком  ВКЛ быў з тытулам “літоўскі генерал-губернатар” Мікалай Рапнін, хаця ў гэты час у Гродне знаходзіўся вялікі князь літоўскі Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Адбыўся і дзяржаўны перапіс насельніцтва ВКЛ.

[1]Żytkowicz L. Rządy Repnina na Litwie.., s. 103-106, 112. III дэпартамент Сенату займаўся справамі тых губерняў, якія мелі асаблівасці ў сваім уладкаванні (Блинов. Губернатары. – СПб., 1905, с. 226).

[2] Żytkowicz L. *Rządy Repnina na Litwie..,* s. 169, 170.

[3] Żytkowicz L. *Rządy Repnina na Litwie*.., s. 114-115.

**Бібліяграфія**

Архіўныя крыніцы.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне, ф. 1219.

Літаратура

Анішчанка Я. *Другі падзел Рэчы Паспалітай* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі.* Т. 3. Мн., 1996, с. 287.

Анішчанка Я. Інкарпарацыя. Літоўская правінцыя ў падзелах Рэчы Паспалітай. Мінск: Хурсік, 2003.

Анішчанка Я. *Трэці падзел Рэчы Паспалітай* [у:] *Энцыклапедыя гісторыі Беларусі.* Т. 6. Мн., 2001, с. 534-535.

Арлоў У., Сагановіч Г. *Дзесяць вякоў беларускай гісторыі (862 - 1918): Падзеі. Даты.Ілюстрацыі*. Вільня: Наша Будучыня, 1999.

Брандыс М. *Исторические повести*. М., 1975.

Брыгадзін П. І. *Гісторыя Беларусі ў кантэксце еўрапейскай цывілізацыі: вучэбны дапаможнік.* Мінск, 2015

Госцеў А., Швед В. *Кронан. Летапіс горада над Нёманам (1116-1990).* – Гродна, 1993.

Де-Пуле М. *Станислав-Август Понятовский и Літва в 1794 -1797 годах.* Издание 2-е. СПб., 1871. с. 42-43.

Куль-Сяльверстава С. *Ад каралеўскага горада да губернскага цэнтра: Гродна на мяжы 18-19* стст. [у:] *Палітыка. Культура. Асоба.Нарысы па гісторыі культуры Беларусі*, Гродна ЮрСаПрынт, 2012, с. 29-39

Милютин Д. М. *Гродна в 1794, 1795, 1796 годах*. Гродна, 1905.

Рубинштейн С.Ф. *Хронологический указатель указов и правительственных распоряжений по губерниям Западной России, Белоруссии и Малороссии за 240 лет с 1652 по 1892 год.* Вильна, 1894.

Філатава А. *Тры падзелы Рэчы Паспалітай* [у:]*Крыжовы шлях*. Мн., 1993.

Швед В.В. *Горадня: аповяды з гісторыі горада (сярэдзіна 16 – канец 18 ст.*) / В.В. Швед, А.П. Госцеў. Гродна, Пергамент, 1997.

Швед В.В. *Беларусь паміж Польшчай і Расіяй: Грамадска-палітычнае жыццё (1772-1863 гг.),* Гродна, 2001.

Швед В.В. *У час паўстання 1794 г.* [у:] *Памяць. Гродна.* Мн., 1999, с. 138-140.

Швед В.В. *У складзе Расійскай імперыі*. [у:] *Памяць. Гродна.* Мн., 1999, , с.143-145

Bykowski P.J. *Dwór królewski w Grodnie. Epizod biograficzny (1795-1797).* Warszawa, 1884.

Czarnowski R. J. Grodno. *Zapomniana stolica.* Warszawa: oficyna wydawnicza RYTM, 2015.

*Organizacja państwa polskiego według ustaw Sejmu Grodzieńskiego z roku 1793* / St. Choliński , Warszawa 1918.

Żytkowicz L. *Rządy Repnina na Litwie w l. 1794-7*, Wilno 1938.

Апублікаваныя крыніцы

Безбородко И.А. *Журнал пребывания его величества, короля польского, Станислава Августа в Гродне 1795-1796 годов, ведённый приставом при нём генерал-поручиком И.А. Безбородком*. М., 1870.

*Восстание и война 1794 в литовской провинции*. М., 2000

*Полное собрание законов Российской империи*. Собрание первое. Т. XXIII. 1789- 6 ноября 1796 г. – СПб., 1830.

*Pamiętniki Michala Zaleskiego, wojskiego WKL, posla na sejm czteroletni*[w:] *Rocznik Towarzystwa Historyczno-literackiego w Paryzu.* Rok 1873-1878. T. 2. – Poznań, 1879.

А.Л. Киштымов[1]

## Язва плагиата: диагноз, болезнь и лекарства[2]

A.Kishtymau

## Ulcer of plagiarism: diagnosis, disease, medicines

**Ключевые слова:** белорусская историческая наука, автор, плагиат.
**Key words**: Belarusian historical science, author, plagiarism

**Резюме:** В статье дается анализ методов и способов нарушения авторского права, приводятся конкретные случаи плагиата, имевшие место в белорусской исторической науке последних десятилетий.

[1] НАН Беларуси, кандидат исторических наук
[2] Статья написана на основе доклада на Международной научной конференции “Автор и авторское право”, Беларуская Акадэмія, 8 декабря 2021 г.

**Abstract:** The article analyzes the methods and ways of copyright infringement, provides specific cases of plagiarism that have taken place in the Belarusian historical science of recent decades.

Вспоминается диалог почти 35-летней давности с Владимиром Николаевичем Михнюком. Дело в том, что в газете «Знамя юности» был перепечатан мой текст из сборника «Диалог с молодежью: (100 вопросов - 100 ответов)» (Минск, 1986). Под другой фамилией. Я спрашиваю у доктора исторических наук: «Зачем это понадобилось другому доктору?» Его ответ был примерно такой: «Гордись, воруют только то, что представляет какую-нибудь ценность. А, если у младшего научного сотрудника украл доктор – гордись вдвойне.»

Я все-таки в газету сходил, поговорил с редактором, а им в это время был Александр Класковский, и через некоторое время там напечатали пояснение, мол, спасибо внимательному читателю, полное совпадение текстов, но это техническая ошибка, в наборе куда-то кавычки исчезли. Но, как там чужая «авторская» фамилия оказалась – объяснения не было.

Времена были перестроечные и постперестроечные: новые темы, новые факты, новые имена. Кто-то действительно самостоятельно пахал историческую целину. Но вот урожай на ней стали собирать все, кому не лень. На поле битвы за национальную белорусскую историографию нестройной толпой потянулись мародеры. И я уже не удивлялся, когда под чужими фамилиями обнаруживал найденные и опубликованные мной сюжеты из биографий, например, опальных президентов белорусской академии, таких, как Всеволод Игнатовский или Антон Жебрак.[1]

Затем наступила эра интернета. Наверное, не ошибусь, если скажу, что его появление в медиа-пространстве дало мощный толчок развитию плагиата, да и вообще эрзац-науки под видом исторических исследований (весьма часто авторы именуют их «историческими расследованиями»). Нисколько не умаляя значения новых информационных технологий, отметим их теневую сторону.

Интернет создает иллюзию вседозволенности. Пишу, что хочу. И, безнаказанности: называю себя сам, и называю, как хочу - ловите, если сможете. Про вольности интернета в белорусском виртуальном

[1] Кіштымаў А. *Пра гісторыю, генетыку і журналісцкую этыку* … [у:] *Літаратура і мастацтва*, 1994, 17 червеня.

